BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(55) Жнівень 1998 August Год выд. 6.

**...Памятаеце, у час перастройкі ў нас часта паўтаралі ведамае чэхаўскае выслоўе аб неабходнасьці па кроплі выціскаць з сябе раба?**

**У нас існуюць два віды рабства. З адным — вечным страхам, вечным недавер'ем у собскія сілы — нямала людзей ужо расталася і растаецца сёньня. Але больш абрыдлівым зьяўляецца другі від беларускага рабства — дабравольнае лакейства перад уладаю. Вось-жа, у нас маецца цэлая вялікая група лакеяў. З гісторыі мы ведаем, што рабы здольныя на паўстаньні. Лакеі — ніколі... Вось таму Хартыя-97 разьлічана, вобразна гаворачы, на думаючых, пераадольваючых собскае рабства людзей...**

Андрэй Саньнікаў у гутарцы з С. Букчыным на старонках "Беларускае газэты".



**Сп. Паўлюк Дуброўскі-Гуз — знаны беларуска-аўстралійскі працаўнік на грамадзка-культурнай і палітычнай ніве, сябра БНЦ і Беларускае ЦР, вялікі патрыёт беларускага народу.**

**Дарагі Спадар Паўлюк! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**

## Хартыя '97

CHARTER"97

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусі, заяўляем, што дзеянні цяперашніх уладаў накіраваныя на зьнішчэнне неад'емных правоў і свабодаў чалавека. У краіне растаптаны асноўны закон — Канстытуцыя. Беларускаму народу адмоўлена ў праве абіраць сваіх прадстаўнікоў ва ўладныя структуры. Вядзецца сістэматычны наступ на свабоду слова, на правы грамадзян ведаць рэальнае становішча ў краіне. Разбураюцца нацыянальныя культура і школа, дыскрымінуецца беларуская мова. Штодзённы рост цэнаў і жабрацкі заробак ставяць на мяжу існавання сотні тысяч сем'яў. Напярэдадні XXI стагоддзя ў цэнтры Еўропы ўсталяваўся дыктатарскі рэжым. Дзесяць мільёнаў людзей апынуліся ў палоне гвалту.

Мы верым, што наша Радзіма вартая свабоды і росквіту. Мы верым, што менавіта такой зробяць яе нашы супольныя намаганні. Нас натхняе прыклад свабодных народаў, якія прайшлі гэты шлях раней за нас. Мы памятаем, як група мужных чэшскіх і славацкіх праваабаронцаў падпісала Хартыю-77, у якой заклікала да барацьбы з таталітарызмам у сваёй краіне, і як праз некалькі год ад чырвонай дыктатуры ва Усходняй Еўропе не засталося слядоў. Людзі ў гэтых краінах атрымалі магчымасць вольна будаваць сваё жыццё і дасягаць дабрабыту.

Мы не можам больш цярпець гвалт, парушэнні законаў, злачынствы супраць усяго народа і кожнай асобы. Мы будзем салідарныя з кожным, хто змагаецца за свае правы, за свабоду і добрыя ўмовы жыцця для сваіх сем'яў.

Мы прытрымліваемся розных палітычных поглядаў і рэлігійных веравызнанняў, але нас аб'ядноўвае любоў да свабоды і Бацькаўшчыны. Падмуркам нашай падрыхтаванасці да сумесных дзеянняў у справе вызвалення беларускага народа з'явіцца павага да поглядаў і веры адно аднаго. Наша салідарнасць пераможа гвалт і бессаромную хлусню. Усе, хто выйшаў на шлях змагання за свае правы і чалавечную годнасць, павінны быць упэўненыя ва ўсеагульнай падтрымцы.

Мы спадзяемся на разуменне сусветнай супольнасці і салідарнасць усіх сілаў, якія разумеюць небяспеку ўсталявання на постсавецкай прасторы новай карычневай імперыі. Асколак таталітарызму павінен быць выняты з цела Еўропы.

Мы заяўляем сёння аб сваёй адказнасці за лёс краіны, за будучыню нашых дзяцей. Мы зробім Беларусь вольнай, незалежнай, квітнеючай еўрапейскай дзяржавай, дзе абароненыя правы чалавека, дзе няма палітзняволеных, дзе ўсе маюць годныя ўмовы для жыцця.

Мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі далучыцца да нашай Хартыі, каб сумесна змагацца за свае правы і свабоды, за аднаўленне дэмакратыі і законнасці ў нашай краіне.

ЖЫВЕ ВОЛЬНАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ!

## СВЯТА РАСТАПТАНАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

Неяк ціха прайшло 15 сакавіка адно з найважнейшых дзяржаўных святаў — Дзень Канстытуцыі РБ. Крыху пагаманіла ў сталіцы неарганізаваная апазіцыя: уладныя структуры, якія хварэюць на пампезнасць і паказушнасць ды ладзяць вялікія гульбішчы ў гонар тага, што 80 гадоў назад на адной з чыгуначных станцый паміж Псковам і Нарваю п'яныя маракі, дзеля таго, каб апахмяліцца, адбілі ў германскіх войскаў некалькі цыстэрнаў са спіртам — маўчалі, быццам вады ў рот набраўшы.

А чатыры гады таму — усё здавалася, як нельга лепш. У гэты дзень прышла Канстытуцыя новай самастойнай ды незалежнай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь. Усе спадзяваліся на лепшае. Спадзяваліся, што ўрэшце рэшт спыніцца спад вытворчасці, што знікне нестабільнасць і з'явіцца ўпэўненасць у заўтрашнім дне, што хаасу саступіць парадак і законнасць. Што мы, як іншыя народы цывілізаванага свету, зажывём годна, за сваю працу атрымаем належны заробак.

"Засвяцілі" выбары першага Прэзідэнта РБ, які павінен стаць стаць гарантам гэтай Канстытуцыі.

Знявечаныя былою савецкаю прапагандаю душы і розум нашых людзей хацелі ўсё і адразу: мець вялікі заробак, шмат таннай ліվернай каўбасы ды дарэмнай гарэлкі. Якім бывае іншы дабрабыт яны проста, не маглі ўявіць. Усе свае беды людзі бачылі ў развале Савецкага Саюза, а сваё выратаванне — яго аднаўленні. А што аднаўленне былой калоніі — мроя, міраж у большасці сваёй ніхто не задумваўся, у большасці сваёй усе забыліся пра адну ісціну: усё ў жыцці дастаецца нялёгкаю працаю.

На выбарах Першага Прэзідэнта перамагла вялікая дэмагогія. І як вынік крыху болей чым праз два гады груба растаптана Канстытуцыя, заменена нацыянальная адметнасць — дзяржаўная сімволіка, разагнаны законнаабраны парламент. ППРБ стаў паўнаўладным дыктатарам у поўным сэнсе гэтага слова. І тыя, хто марыў пра танную каўбасу ці жыццё ў канфіскаваным катэджы забыў як яна пахне і марыць толькі аб тым, каб яго сям'ю не выселілі з інтэрнатаўскага пакойчыка.

Самазадаволеная пыха 1994 года: "Ведаю каго выбіраць" ператварылася ў жывёльны страх. "Толькі мяне не ўмешвайце!" і як апраўданне свайму безглуздаму выбару можна пачуць: "А што я магу зрабіць?" ці "Другі на яго месцы рабіў бы тое самае".

Вось да чаго прыводзіць бяздумная самаўпэўненасць. Вось да чаго прыводзіць абыякавасць.

Жыць можна і ў пекле: адзін у смале варыцца, другі яе возіць, а трэці дровы падкладвае — кожны прыстасаваўся, як умее.

А усё пачалося з дробязі: грамадзяне РБ не звярнулі ніякай увагі на тое, як Першы Прэзідэнт парушыў Канстытуцыю, на якой даваў клятву. Даравалі раз — значыць і надалей можна парушаць беспакарана. Значыць і надалей можна чыніць што хочаш.

Урэшце рэшт атрымалі тое, што маем.

**Язэп Палубятка.**



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.


**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне Згуртаваньне Беларусаў Канады запрашаюць на 5-7 верасьня, 1998 г. ў Нью-Брансвік, штат Нью Джэрзі, ЗША.**

**на 23-юСустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.**

Тэма сустрэчы:
**БЕЛАРУСЬ, БНР і ДЭМАКРАТЫЯ ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ**

У праграме Сустрэчы заплянавана: Урачыстыя Багаслужбы, Сымпозіюмы, Баль сустрэчы і Банкет з канцэртам.

Арганізацыйны камітэт Сустрэчы просіць паведамляць аб удзеле ў Сустрэчы па тэлефонах: (732) 545-6654 і ((732) 560-8610.

Больш значныя падзеі будуць адбывацца ў гатэлі Hyatt Regency ў Нью Брансвіку.

# Як называюцца дзеці, якія прадаюць бацьку і цураюцца роднай маці?

Прачытала ў артыкуле "Яшчэ раз пра талерантных пескароў" ("Народная воля" за 4 лютага 1998 г.) два пісьмы і стала сумна і балюча. І сапраўды, чаму мы, беларусы, такія сляпыя, што не хочам нічога бачыць, такія тупыя, што не можам разумець самага відавочнага?

Бабка Аня піша, што пражыла цяжкае жыццё, бадзялася па будоўлях, цаліне, бачыла толькі непасільную працу і засталася задаволенай сваім чэсным жыццём. Напэўна, такое жыццё яна жадае астаўіць і сваім унукам.

Цікава атрымліваецца. Мы, простыя людзі, так сумленна працавалі, небагата жылі, мацавалі дзяржаву, аддавалі ёй усё, што маглі. А яна, наша самая "справядлівая" ў свеце дзяржава, не пасаромелася забраць ад нас нават тыя капейкі, якія нялёгка сэканомілі за ўсё жыццё. А бабка Аня піша, што прэзідэнт прыйшоў на пусты банк. А чаму ж ён аказаўся пустым? Што, у ім былі такія вялікія дзіркі, што ўсё скрозь зямлю правалілася?

А можа, нашы начальнікі прафінцілі грошыкі? Укладваць жа было куды: то зброю кавалі, то ваявалі, то камунізм міравы падтрымлівалі. Ды і прыкарытнікі жылі не так, як бабкі ані. Вось і разматалі.

І на багацце ж трэба, каб быў гаспадар. А яго ў нас як не было, так няма і сёння.

Эканоміка дыхае на ладан. Усё развальваецца, цэны растуць, людзі бяднеюць. А яны народную капейку прамотваюць.

Гэта ж вам не якая-небудзь Францыя ці Германія, ці другая цывілізаваная краіна, дзе кіраўнік не вельмі разгуляецца, бо ёсць закон. Народ выбраў цябе і, будзь добры, выконвай Канстытуцыю, а не — дык і адзін адведзены тэрмін не дабудзеш. Вось і стараюцца, бо пасля высокай пасады трэба яшчэ жыць сярод сваіх людзей і трэба, каб цябе паважалі. Так там і ёсць.

А ў нас як было? Як узлез на трон, дык, аж пакуль не зваліцца, ўсё "правіць". Усе моляцца, як на Бога. А кончылася царства, выцягнуць за ногі, паліваюць памыямі. Ніхто не пайшоў па-людску. Усім хапіла.

Чаму Ленін не прыняў дэкрэт аб выбранні кіраўнікоў на вызначаны тэрмін? Тады і сталінскіх рэпрэсій не было б. Можа, і яшчэ што было б па-другому. Дык жа не, сам хацеў царом быць.

Бабка Аня ганарыцца, што ўсім домам галасавалі за Лукашэнку. Хочацца запытацца: іх увесь дом заселены бабкамі анямі, што так аднолькава думаюць? Быў жа час, калі аднадумцы жылі не толькі ў адным доме, але і ў цэлай дзяржаве. Ва ўсіх мазгі былі на адзін капыл, а чым кончылася, гэта добра вядома.

І апошняе, самае галоўнае. Вы пішаце, што любіце Беларусь і беларусаў, што гэта працавіты і мудры народ і г.д.

Што працавіты, цярплівы, я згодна. Але назваць наш народ мудрым язык не паварочваецца. Гавораць жа, што суверэнітэт краіны — бацька народа, мова — яго маці. Дык як жа можна назваць дзяцей, якія прадаюць свайго бацьку, цураюцца роднай маці, жыўём закопваюць яе ў зямлю? А мы ж гэта робім. Мы, беларусы. Хто ж мы пасля гэтага такія?

Мне здаецца, што кожны народ павінен быць крыху нацыяналістам. Гэта значыць паважаць сябе, мець нейкую нацыянальную годнасць, свой асобы чалавечы гонар за сваю дзяржаву, яе гісторыю, культуру.

Паляк, немец, француз з гонарам заяўляюць аб сабе, сваёй Радзіме, чаго не робім мы. Мы нават саромеемся беларускай мовы, мовы сваіх бацькоў і дзядоў.

Можа, не зусім і вінаваты мы. Беларусаў вякамі прыгняталі, прыніжалі, тапталі іх чалавечую годнасць, знішчалі лепшых сыноў і дачок. І зараз яны не могуць уцяміць, хто яны і глядзяць на свет божы толькі праз мяшок буракоў і бункер саломы.

Але самае страшнае тое, што калі з гэтага бясформеннага людскога месіва вырысоўваюцца постаці сапраўдных беларусаў, іх пачынаюць кляйміць нацыяналістамі. А можа, не трэба падсякаць яшчэ ў зародышы гэтыя рэдкія і кволыя парасткі роднага, беларускага, давайце лепш падкармліваць апустошаную нашу глебу, каб і на ёй прарастала сваё і адчувала сябе гаспадаром, а не толькі квітнела чужое, замежнае.

Час змяніўся. Растуць новыя людзі, моладзь, якая глядзіць на свет адкрытымі вачыма. Яна выпрамілася, зведаўшы подых свабоды. Яна адукаваная. І калі нам ужо цяжка падняцца з каленяў, каб крочыць за ёй, дык не трэба путацца пад яе нагамі, мяшаць.

З імі будучыня Беларусі незалежнай, квітнеючай і паважанай другімі. З імі дастойнае жыццё нашых нашчадкаў.

**М.ТАНАНКА,**
**пенсіянерка.**

# Навошта ўчарашні дзень рабіць нашым "светлым заўтра"?

«Народная Воля»

Раніцай 11 снежня 1990 года людскі натоўп, як і звычайна, яшчэ за гадзіну да адкрыцця новага глыбоцкага універмага штурмаваў дзверы ў надзеі штонебудзь купіць. З панядзелка да пятніцы не змяншаліся чэргі ў касах і аддзелах, бо праходзіла дэкада абслугоўвання калектываў прадпрыемстваў і арганізацый горада. Што б ні паступіла сюды ў продаж, знікала з прылаўкаў у лічаныя хвіліны.

Той шэры кароткі дзень быў адметным хіба тым, што глыбачане з талонамі ў руках сваім напорам разбілі вялікае шкляное акно крамы, і адміністрацыі нічога не заставалася, як выклікаць міліцыю для навядзення парадку. Колькі падобных жыццёвых штодзённых — маленькіх і не зусім — трагедый адбывалася тады на вялізных прасторах СССР, безумоўна, добра ведаў малады шклоўскі дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання Аляксандр Лукашэнка.

Але менавіта ён, праз колькі гадоў стаўшы кіраўніком суверэннай краіны, на сёлетняй сакавіцкай нарадзе ў Гродне ўпершыню публічна паставіў задачу дасягнуць узроўню развіцця Беларусі савецкіх часоў. Прэзідэнт і пасля гэтага ў сваіх прамовах неаднаразова падкрэсліваў, што да канца яго знаходжання на вышэйшай пасадзе рэспубліка павінна дасягнуць узроўню дзевяностых гадоў па асноўных паказчыках. Што ж, калі перад беларускім народам акрэслена перспектыва вярнуцца ў нядаўняе савецкае мінулае, варта ўспомніць, як тады жыла Беларусь.

Я свядома выбраў Глыбоччыну, каб прааналізаваць жыццё людзей таго часу. Менавіта ў гэтых мясцінах здаўна заможна жыў люд, бо мясцовы край за польскім часам славіўся сваімі кірмашамі, гандлем, а пры саветах быў вядомы як буйны цэнтр харчовай прамысловасці. Людзі дабіваліся адносна важкага па тых мерках дастатку яшчэ і таму, што, апроч заробкаў, абавязкова прыхоплівалі сабе што-небудзь з вытворчасці. Дарэчы, сярэдняя зарплата ў 1990 годзе павялічылася да 264 рублёў. У тым жа годзе дзяржаўная цана буханкі хлеба складала 23 капейкі, а кг цукру — 81 кап., мяса — 1 руб. 87 кап., малако — 23 кап., бульбы — 15 кап. На тыя год перабудовы масла сметанковае, калі пашчасціла яго набыць, прадавалася па 3 руб. 41 кап. за кілаграм, яго цана толькі ў красавіку 1991 года перавысіла 8-рублёвы рубеж, што выклікала масавыя забастоўкі ў Мінску і іншых гарадах.

Зараблялі тады мы быццам нядрэнна, але не ўсе. З 1 кастрычніка 1989 года значна падвысіліі заробкі партыйна-савецкім работнікам, і раённае начальства, апроч высокіх акладаў ад 360 да 550 рублёў, стала атрымліваць у выглядзе святочных надбавак яшчэ тры аклады: да 7 лістапада, да 1 мая і да водпуску (лячэбныя). А вось радавыя працаўнікі тут значна адсталі. Глыбоцкія бібліятэкары зараблялі тады ад 80 да 115 руб., колькі і мядсёстры, настаўнікі маглі атрымаць толькі 130—170 рублёў. Тады ж паўсюдна ў раёне былі арганізаваны страйкавыя камітэты, але да рашучых дзеянняў справа не дайшла. Не перавышалі заробкі межаў 150 рублёў у многіх радавых рабочых, служачых, калгаснікаў, толькі хірургі зараблялі па 180 рублёў. А міліцыянты і тады ўжо адарваліся ад астатніх са сваімі акладамі ў 200 і больш рублёў.

Але нават пры рэгулярных заробках каторы год настрой у людзей быў прыгнечаны і смутны. Штосьці-небудзь свабодна купіць у краме было немагчыма. І ў Глыбокім расхопліваліся літаральна ўсё, нават самыя залежалыя тавары. Солі раскупілі ў той год на 80 тон больш звычайнага. Планава-размеркавальная сацыялістычная сістэма давяла да таго, што ў крамах з'явіліся даўжэзныя чэргі людзей з карткамі і талонамі літаральна на ўсё. Нічым своеасаблівым — ні якасцю, ні надзейнасцю — не вызначаўся тавар, які прывезлі ў тыя снежаньскія дні ў глыбоцкі універмаг. Толькі і таго, што на прылаўкі выкінулі кашулі мужчынскія, тапкі, панталеты, туфлі жаночыя, боты, паліто, плашчовыя курткі.

Усю гэту партыю тавараў размяркоўвалі цэлай камісіяй, якія тады ўсюды працавалі пры райгарвыканкамах, з разліку колькасці працуючых членаў калектываў. Шмат розных неверагодных чутак хадзіла і аб абслугоўванні камуністычных апаратных работнікаў і самых гандляроў. Цяпер смешна чытаць, як яны апраўдваліся са старонак райгазеты, што тапкі атрымалі ў снежні 1990 года ўсе жанчыны Глыбоцкага райкама партыі і райспажыўсаюза, боты — ніводная. Касцюмы жаночыя, курткі жаночыя летнія "пашчасціла" набыць кіруюча-гандлюючым кабетам у колькасці адной штукі...

Тут варта нагадаць, што з 17 мая таго ж года на тэрыторыі краіны дзейнічала сістэма продажу ўсіх тавараў толькі па пашпартах і толькі для жыхароў БССР. Увесь цывілізаваны свет смяяўся з таго, што яшчэ з 1989 года паўсюдна ў Беларусі былі ўведзены нормы водпуску тавараў. На квартал, аб чым многія ўжо забыліся, размяркоўвалася па 1,5 кг пральнага парашку і па 350—400 грамаў мыла разам з талонамі на цукар. Салодкі прадукт перад гэтым глыбачане, як і суседзі, не атрымоўвалі амаль паўгода, два месяцы жылі без мыючых сродкаў. Нават піва не хапала ў горадзе, дзе быў свой піўзавод, і яго забаранілі прадаваць у буфетах лазні.

Пры дэталёвым знаёмстве з рэаліямі нашай нядаўняй эпохі здзіўляе і абурае цяпер многае. Асабліва, калі ведаеш, як жылі ў той час астатнія краіны свету, у тым ліку нашы блізкія суседзі. Мне асабіста на той момант пашчасціла вырвацца за "бугор" і пабываць у Чэхаславакіі і ў Польшчы. Больш чым паўгода не мог прыйсці ў сябе пасля ўбачанага, а вось мае землякі тады так і не верылі мне, што там можна было купіць усё ў залежнасці ад магчымасцей кашалька. Рэформы ў постсацыялістычных краінах толькі пачыналіся, і ў адрозненне ад нас, там, не гаворачы пра краіны Захаду, не было такіх праблем з таварамі, як у нас. Еўрапейскія крамы цяпер з кожным годам яшчэ больш квітнеюць, а людзі багацеюць, чаго не скажаш пра беларусаў.

У гэтыя дні афіцыйная прапаганда пастаянна нагадвае аб хуткім выхадзе на паказчыкі спачатку 1990 года, а затым — развітых дзяржаў. Раней жа яна, прыгадваецца, нядобрым словам успамінала жыццё пры цары і параўноўвала савецкія "дасягненні" з узроўнем 1913 года. Дык вось, адзін з ураджэнцаў гэтых мясцін С.М.Сініца дарэвалюцыі ўладкаваўся на працу простым рабочым на адным сталічным заводзе. Ягоны ўнук расказаў мне, што дзядуля жыў у доме завода ў асобным пакоі, снедаў і вячэраў за кошт гаспадарoй прадпрыемства, а сам плаціў за абед 3 рублі ў месяц пры заробках ад 37 да 45 рублёў і штодзённай працы па 10—12 гадзін, калі іх фірма мела заказы.

Даследчыкі прыводзяць даныя, што ў 1913 годзе ў Беларусі просты чорнарабочы зарабляў за дзень працы ад 90 кап. да 1,20 рубля, каваль — 1 руб. 20 кап.—1 руб. 70 кап., муляр і цясляр маглі атрымаць за такі ж час да 2 руб. 40 капеек. У шматлікіх крамах дэфіцытам і не пахла, фунт жытнёвага хлеба каштаваў каля 3 капеек, пшанічнага — 7 кап. Можна было купіць свабодна свініну за 11—28 кап., ялавічыну — 6—35 кап., рачнога акуня па кошце 12—15 кап., судака — 13—50 кап. І нават асятра — ад 27 кап. да рубля. Вясною 1917 года за 7 рублёў можна было набыць 100 пшанічных булак, за 3 рублі — пуд жытнёвага хлеба. Прыстойны абед у простым рэстаране каштаваў у межах 20 капеек, а ў сталовай і за 5 капеек можна было смачна пад'есці.

Сёння ў цывілізаваных краінах кваліфікаваныя рабочыя за гадзіну працы атрымліваюць дзесяць, а то і больш долараў, самы "лянівы" там можа зарабіць каля пяці долараў. Чаму ж толькі ў нас абсалютнай большасці трэба працаваць цэлы месяц за тое, што ў Еўропе і Амерыцы зарабляюць за дзень? Калі ж наша краіна працягне ісці выбраным напрамкам развіцця, то, я перакананы, не паспеем і агледзіцца, як зноў ранейшая бязглуздасць і татальны савецкі дэфіцыт трывала замацуюцца ў нашым жыцці. Варта задумацца і зрабіць высновы, як жыць далей.

**Уладзімір ШЫК.**

## МАЛІТВА за Беларускі Народ

**Уладару неба і зямлі, спрадвечны Божа! Ласка Твая да нябёсаў, а праўда над воблакі! Ты ўвесь свет стварыў і Духам Святым усё прасвятляеш, ажыўляеш і мацуеш. А людскі род так палюбіў, што Свайго Сына Адзінароднага на зямлю паслаў, каб усе, хто ўверыў у Яго, сталі дзецьмі Тваімі, удзельнікамі Нябеснага Твайго Царства.**

**Мы, дзеці Беларускага Народа, стараліся выконваць Тваю волю і запаветы Твае, у шчырай пакоры просім Цябе, даруй нам свядомыя і несвядомыя правіны нашыя. Сцеражы нас ад усялякіх спакусаў, пашлі нам еднасць, згоду і паразуменне. Умацуй Святым Духам Тваім братоў і сясцёр нашых. Благаславі нашае святарства і адобры працу сялянства, работнікаў, настаўнікаў, пісьменнікаў, вучоных, урачоў, каб наш народ мог разумна і добра жыць і Цябе, Айца нашага Нябеснага, увесь час славіць.**

**Асвятлі наш розум Тваім святлом Евангелля, каб мы, як ангелы нябесныя, заўсёды былі з Табою. Пашлі Беларускаму Народу слугаў Сваіх, якія пабожным жыццём і дзейнасцю вялі б наш народ да лепшае долі. Пашлі нам, Госпадзе, дар Духа Святога, каб мы сталіся народам святым і сваё пасланства выканалі, і Табе, спрадвечнаму Ўладару і Богу нашаму, у Святой Тройцы адзінаму, вернасць, падзяку, любоў і славу аддавалі: Богу Айцу, і Богу Сыну, і Богу Духу Святому цяпер, заўсёды і на векі вякоў.**

**Амінь.**

# Ідэалогія рускага фашызму ў сучасных умовах

«Народная Воля»

Беларускія камуністы і рускія нацыянал-патрыёты наўмысна мусіруюць выдумку, быццам БНФ — партыя фашысцкага тыпу. Пры гэтым, аднак, ніколі не праводзіцца параўнанне праграмных мэт БНФ з нацыянальнай ідэалогіяй баркашовых, ампілавых, сцерлігавых і іншых прадстаўнікоў рускага фашызму, які звычайна хаваецца пад "камуністычнымі" лозунгамі і ідэямі "ўсеславянскага ўз'яднання" (вядома, пры поўнай русіфікацыі беларусаў і ўкраінцаў і канчатковым знішчэнні іх дзяржаўнасці). У гэтай сувязі наспела неабходнасць даць канцэптуальную ацэнку нацыянальнай ідэалогіі і палітыкі рускага фашызму, асабліва з пазіцыі беларускага патрыятызму як састаўной часткі славянскага адраджэння.

Аналіз нацыянальнай палітыкі Расіі паказвае, што ў яе распрацоўцы і асабліва ажыццяўленні вялікую, калі не рашаючую ролю іграюць нацыяналрадыкальныя сілы шавіністычнага і фашысцкага кшталту. Гэтым сілам уласціва адна агульная рыса — імперскія адносіны як да падначаленых карэнных народаў федэрацыі (а дакладней, імперыі), так і да народаў былых калоній Расіі, стаўшых сёння незалежнымі краінамі. Гэтыя адносіны складаюць сутнасць вялікарускай нацыянальнай ідэі і служаць духоўна- палітычнай асновай сучаснага рускага фашызму. Іх састаўнымі часткамі з'яўляюцца:

**Дзяржаўная несправядлівасць** у адносінах да карэнных народаў федэрацыі. Яе прабацькі і носьбіты — вялікарускі шавінізм і нацыяналізм (ці, як кажуць яны самі, "великорусский просвещенный патриотизм"). У аснове гэтай несправядлівасці ляжыць імперская ідэя вялікарускай дзяржаўнасці, згодна з якой толькі руская нацыя мае божае права на дзяржаўнасць, свабоду і незалежнасць. А калісьці заваяваныя ёю народы (чэчэнцы, якуты, татары і г.д.) такога права не маюць і, незалежна ад іх жадання, павінны вечна жыць у рускай няволі. (Таму канстытуцыя Расіі гэтым народам не дае правоў на самавызначэнне і выхад з імперыі нават праз нацыянальныя рэферэндумы.)

Канцэпцыя вялікарускай дзяржаўнасці сёння распаўсюджваецца рускімі фашыстамі і на былыя ўскраіны імперыі, асабліва на такія падатлівыя і памяркоўныя народы, як беларусы, казахі, кіргізы, якія вырваліся, можна сказаць, цудам з-пад рускага іга (як калісьці самі рускія — з-пад татарскага) і спяшаюцца будаваць сваю дзяржаўнасць — аснову незалежнасці і існавання любой нацыі.

**Моўная несправядлівасць** у адносінах да карэнных народаў, паводле якой толькі руская мова з'яўляецца адзінай дзяржаўнай мовай імперыі (прымяніць бы рускім гэтую канцэпцыю ў нас, дык не: у сябе — аднамоўе, у краінах СНД — двухмоўе! І ўсё для аднаго: трэба хутчэй абрусіць і паланіць беларусаў, казахаў, малдаван, украінцаў, захапіць іх душы, а разам і нетры, заводы!). Таму дзяржаўнае двухмоўе на тэрыторыі карэнных народаў у Расіі не дапускаецца, а гэтыя народы падлягаюць татальнай русіфікацыі і асіміляцыі, г.зн. знішчэнню яе этнаса (бо толькі ў гэтым выпадку выключаецца распад імперыі!).

Такая ж нацыянальная палітыка праводзіцца рускімі і ў краінах СНД. Механізмам і тэхналогіяй здзяйснення гэтай палітыкі тут з'яўляюцца тэорыі "дзяржаўнага двухмоўя" і "свабода выбару моў", якія на практыцы (і гэта яскрава праявілася ў Беларусі) прыводзяць да поўнай русіфікацыі народа і паступовай ліквідацыі яго дзяржаўнасці. А калі беларусы гэта разумеюць і даюць адпор, рускія па-езуіцку абураюцца: "Какая разница, на каком языке говорить — жилось бы хорошо!" Пры гэтым, аднак, самі размаўляюць на сваёй мове, а не на нашай... Выходзіць, для рускіх розніца ёсць, і вялікая, на якой мове гаварыць!

Як бачыце, у многанацыянальнай федэрацыі рускія спрадвеку не дапускаюць дзяржаўнага двухмоўя нават на тэрыторыях карэнных народаў і лічаць моўны генацыд адносна іншых нацый справай законнай і справядлівай. А ў краінах Садружнасці, дзе яны не з'яўляюцца карэннымі народам, наадварот, — насмерць стаяць за двухмоўе і, такім чынам, вядуць сябе, як гаспадары. Пры гэтым выступаюць за двухмоўе на словах. На самай справе і тут ім трэба — толькі русіфікацыя, толькі панаванне над карэннымі народамі. Вось вам і Дэкларацыя правоў чалавека, якую падпісала і тут жа растаптала палаючая імперыя!

**Духоўная несправядлівасць** у адносінах да карэнных народаў расійскай федэрацыі, якія ў большасці сваёй іншаверцы і займаюць добрую палову тэрыторыі супольніцтва. Яе сутнасць вышякае з імперскай палітыкі расійскай дзяржавы і заключаецца ў тым, што Рускай праваслаўнай царкве фактычна нададзены статус дзяржаўнай веры. Рэлігіі іншых карэнных народаў (іслам, будызм, каталіцызм, індуізм, іудаізм і інш.) у параўнанні з праваслаўем пазбаўлены "царскай ласкі" і адхілены ад урада, арміі, школ, вузаў і другіх дзяржаўных структур.

У гэтай сувязі адзначым, што ў Амерыцы таксама існуе многа веравызнанняў і рэлігійных вучэнняў. Але прытрымліванне Дэкларацыі правоў чалавека прывяло к таму, што ў гэтай краіне няма дзяржаўнай рэлігіі, і, такім чынам, усе веравучэнні функцыяніруюць на абсалютна роўных правах.

Таму Расійскай Федэрацыі, населенай карэннымі народамі з багацейшымі і больш старажытнымі, чым руская, нацыянальнымі культурамі, сам Бог наказаў узяць прыклад з Амерыкі і пазбавіць Рускую праваслаўную царкву прывілей, не рабіць яе дзяржаўнай рэлігіяй і тым самым не даваць рускім фашыстам падстаў узвышаць сваю нацыю над другімі народамі.

Але справядлівую духоўную (як і моўную) палітыку рускі фашызм праводзіць не хоча і, мабыць, не можа: слава вялікадзяржаўя і адпаведная амбіцыі засланяюць розум, штурхаюць тварыць зло і несправядлівасць. І спрадвечна — дзеля аднаго: каб кіраваць іншымі народамі, нажывацца за кошт іх багацця і працы! Таму інтэграцыя ці саюз з Расіяй — гэта шлях да ярма, гэта асіміляцыя народаў і іх знішчэнне.

І ў гэтай справе не апошнюю, калі не першую, ролю выконвае праваслаўная царква. Асабліва ў нашай краіне. Ужо многім відавочна, што гэтая царква — духоўная маці вялікарускага шавінізму, ворагі нашай мовы і культуры, нашай дзяржаўнасці і незалежнасці, нашай нацыі. І тут мэта, як заўсёды, адна: пад маскай праваслаўя ажыццяўляць вышэйшыя інтарэсы сваёй імперыі! А гэта — русіфікацыя карэнных народаў (былі беларусамі — станеце рускімі!), ліквідацыя іх незалежнасці і дзяржаўнасці (была краіна Беларусь — стала калонія накшталт Якуціі), вечнае прыгонніцтва (беларусы — калгаснікі і рабочыя, салдаты і галеча, рускія — начальнікі, губернатары і багачы!). Каб адчуць і зразумець гэта, дастаткова пахадзіць у царкву і паглядзець на філарэтаў і папоў, паслухаць іх рускамоўныя пропаведзі і малітвы, поўныя пагарды да ўсяго беларускага.

**Сацыяльна-эканамічная несправядлівасць** у адносінах да карэнных народаў. Яна ўключае кадравую, прыватызацыйную, адукацыйную і другія віды палітыкі, накіраваныя на поўнае матэрыяльна-духоўнае падпарадкаванне іншых народаў. Прыкладаў таму мноства: фактычна ўсе нафтавыя, газавыя, алмазныя, рудныя і іншыя радовішчы, размешчаныя на землях карэнных народаў Расіі, знаходзяцца ва ўласнасці не самых гэтых народаў. Каб былі яны незалежнымі, як самі рускія, то сталі б гаспадарамі сваіх нетраў, свайго лёсу і купаліся б у доларах, як бедуіны Кувейта ці Арабскіх Эміратаў. А так асіміляюцца і выміраюць у страшэннай галечы. Вось вам дружба народаў і "нацыянальная справядлівасць"!

Антынацыянальная палітыка беларускіх улад, накіраваная на раз'яднанне беларусаў, на знішчэнне беларускай культуры, на русіфікацыю беларусаў і далучэнне нашай краіны да Расійскай імперыі нашу суседку больш чым задавальняе. Так і карціць рускім фашыстам хутчэй хапануць нашы заводы і нетры, нашы калгасы і банкі, захапіць нас з тылу. Бо як толькі разгарнецца сапраўдная "прыхватызацыя" буйных кавалкаў уласнасці, усім багаццем, а значыць, і намі завалодае рускі капітал, не шкадуючы сродкаў на скупку "па дзяшоўцы" нашай маёмасці. А хто падтрымае беларусаў — калгаснікаў і рабочых, інжынераў і настаўнікаў? Ніхто. І нішто, пасколькі існуючыя законы не ўлічваюць беднасць і незгуртаванасць нашай нацыі. І гэта, на жаль, не разумеюць многія беларускія дзеячы, хаваючы сваю палітычную слабасць за маскай памяркоўнасці.

**Інфармацыйная несправядлівасць** у адносінах да карэнных народаў. Яе мэта — праслаўленне рускай нацыі і адданне забыццю падначаленых народаў, пазбаўленне апошніх нацыянальнай ідэі (рускім — можна, ім — не!). І ўсямернае абмежаванне іх культурнагістарычнай свядомасці. Таму ўся інфармацыйная прастора Расіі, усе федэратыўныя сродкі масавай інфармацыі прапагандуюць толькі рускую нацыянальную ідэю. Чэчэнскай ці якуцкай нацыянальнай ідэі тут месца няма, бо гаварыць ці пісаць пра нацыянальныя ідэі карэнных народаў і іх русіфікацыю ў Расіі не прынята (гэта несумяшчальна з жаданнем асіміляваць гэтыя народы і ператвараць федэрацыю ва ўнітарную дзяржаву накшталт нашай Беларусі).

Асабліва маштабна і цынічна ажыццяўляецца інфармацыйная палітыка рускага фашызму ў нашай краіне. Праслаўленне рускай нацыі і забыццё беларускай адбываецца мэтанакіравана і паўсюдна: у гарадах і вёсках, на ўстановах і на прадпрыемствах, у школах і вузах...

Ньютан гаварыў: прыклады не менш павучальныя, чым самі правілы. Дык вось: на тэрыторыі нашай краіны з пяці тэлеканалаў чатыры поўнасцю чужамоўныя, а пяты "беларускі" — мала ў чым беларускі! Хіба можна ўявіць такое ў іншых краінах, напрыклад, у Расіі ці Польшчы? І яшчэ: у нашай сталіцы многія вуліцы і праспекты носяць імя рускіх гарадоў, дзеячаў і заваёўнікаў. А ці знойдзеце вы ў Маскве праспект з імем Купалы ці Багдановіча, Касцюшкі ці Лесіка?

Факты сведчаць, што ў аснове ідэалагічнага замбіравання карэнных народаў (і асабліва беларусаў) ляжыць адна нацыянальная ідэя — вялікаруская. Таму ў час апошняй руска-чэчэнскай вайны па расійскіх тэлеканалах падавалася (і так робіцца сёння) хлуслівая інфармацыя, паказваючая нацыянальна-вызваленчую барацьбу каўказкіх народаў як "антызаконнае выступленне бандыцкіх фарміраванняў мясцовых сепаратыстаў і кланаў", падлягаючае бязлітаснаму падаўленню ў інтарэсах вялікай і недзялімай імперыі. І ніколі нацыянальная праблема не ставілася справядліва, па-боску: калі рускія любяць свабоду і незалежнасць, то чаму яе не павінны любіць другія народы? Калі рускія не дапускаюць дзяржаўнага двухмоўя, то чаму беларусы і ўкраінцы павінны рабіць гэта? Чаму, каб атрымаць грамадзянства ЗША, іншаземцам трэба ведаць англійскую мову, а прыехаўшым у Беларусь нашу мову ведаць не трэба і, больш таго, дазваляецца выступаць супраць яе? Чаму рускія маюць дзяржаўнасць, а другім народам мецъ яе забаронена? Чаму нават за межамі Расіі рускім можна асіміліраваць карэнныя народы, а карэнным народам асіміліраваць рускіх — не? Чаму ва ўнітарнай Беларусі павінна быць двухмоўе, калі ў Расіі — многанацыянальнай федэрацыі — аднамоўе? Хто гаспадар на зямлі беларускай — карэнныя беларусы ці прыезжыя рускія?

Але так справядліва ставіць і рашаць нацыянальныя пытанні рускі фашызм не хоча. Яго дэвіз адзін — татальная русіфікацыя ўсіх і ўсюды: няма народа — няма праблем! Пры найменшай нязгодзе — адразу крык, гвалт: "прыцясненне рускамоўнага насельніцтва"! А як самі асімілююць ненцаў і якутаў, расстрэльваюць чэчэнцаў за імкненне да свабоды — пра гэта маўчок, гэта "ўнутраныя справы" Расіі. У той жа час барацьба з русіфікацыяй у Латвіі ці Казахстане, у Беларусі ці на Украіне, па логіцы імперцаў, чамусьці не з'яўляецца "ўнутранай справай" гэтых краін. І тут, за сваімі межамі, Расія навязвае сваю мову другім народам. Што будзе, калі гэтыя народы паразумнеюць і возьмуць прыклад з рускіх? А даўно пара. Бо многія рускія (не ўсе, канешне) перасяліўшыя на чужыя землі, не паважаюць карэнныя народы, не вучаць і не ведаюць іх мовы і, такім чынам, паводзяць сябе як акупанты, як заваёўнікі.

Ва ўсім гэтым, як у люстры, адбіваецца сутнасць вялікарускай нацыянальнай ідэі — ідэалогіі рускага фашызму. З праяўленнямі гэтай ідэалогіі я сутыкаюся кожны раз, калі, забыўшыся пра існуючыя палітычныя рэаліі, размаўляю на роднай мове. У гэтых выпадках прыхільнікі "славянской федерации" (на справе — аднаўлення расійскай імперыі) звычайна не вытрымліваюць. Завязваюцца гарачыя спрэчкі, у якіх члены БПСМ спяшаюць выказаць сваё непрызнанне за нашай мовай статуса дзяржаўнай (вось вам і канстытуцыйнае "двухмоўе"), рашуча стаяць за далейшую русіфікацыю беларусаў, адкрыта праяўляюць сваю варожасць да нацыянальнага адраджэння беларусаў (ну і "патрыятычны саюз"!). Прывяду характэрны прыклад.

...Першую лекцыю ў гэтым семестры я пачаў на нашай мове. Раптам, як згаварыўшыся, некаторыя студэнты паўскоквалі і ў лютасці трасучы кулакамі, сталі крычаць:

— Плевать мы хотели на вашу мову! Читайте на том языке, на котором говорит президент! Мы признаем только русский язык!

— А мы думалі, — стараўся я супакоіць іх, — што вы, рускія па паходжанні, ставіцеся да беларусаў па-славянску, як браты, і рады нашаму выхаду з імперыі, утварэнню незалежнай дзяржавы. Выходзіць, памыляемся, калі нават у сваёй краіне, у сябе дома нас прымушаюць размаўляць на чужой мове. Калі рускія не дапускаюць дзяржаўнага двухмоўя, то на якой падставе беларусы ў сваёй краіне павінны дапускаць гэта?

— Расія — гэта не імперыя, а федэрацыя! — не пагадзіўся са мной член БПСМ.

— Як сказаць, — абрадаваўся я наступіўшай цішыні ў аўдыторыі. — Вы параўнайце: у германскай федэрацыі добраахвотна аб'яднаны адзін роднамоўны народ — немцы, у расійскім кангламераце — заваяваныя рознамоўныя народы, больш таго — іншаверцы. Усім вядома, што гэтыя народы падвяргаюцца асіміляцыі і эксплуатацыі. Таму яны імкнуцца вырвацца з-пад імперскага іга і стаць незалежнымі, як самі рускія. Такое імкненне — першапрычына развалу Рымскай, Візантыйскай, Асманскай, Брытанскай і другіх імперый. Сацыяльная, нацыянальная і духоўная несправядлівасць — галоўныя хваробы нашай цывілізацыі. Калі вас гэта цікавіць — давайце прадоўжым дыспут пасля заняткаў...

З гэтых разважанняў-спрэчак вынікае адзін вывад: усе нацыі роўныя перад Богам. Не павінна быць нацый кіруючых ці арыйскіх і нацый прыгнечаных ці каланіяльных. Таму кожная нацыя мае права на самавызначэнне і стварэнне сваёй дзяржаўнасці — першай неабходнай умовы яе вечнага існавання. Мяркую, што для спынення асіміляцыі прыгнечаных народаў і здзяйснення іх інтарэсаў неабходна стварыць адпаведную сусветную арганізацыю — напрыклад, ААН-2. Трэба зрабіць усё, каб галоўнай рысай нашай цывілізацыі стала, нарэшце, не толькі сацыяльная справядлівасць. Тады чалавецтва будзе пазбаўлена войн і рэвалюцый, знікнуць нацыі-эксплуататары, і паміж народамі ўсталюецца сапраўдная роўнасць і ўзаемапавага.

І хай заклік — Свабоду, Справядлівасць і Вечнасць усім народам! — стане дэвізам нашай цывілізацыі, яе душой і мэтай!

**Пётр КАСЦЮКОВІЧ,**
**доктар тэхнічных навук.**

---

Сьветлай Памяці
## АНТОН АДАМОВІЧ

12 чэрвеня 1998 году на 89-м годзе жыцьця памёр у Нью Ёрку, ЗША., выдатны беларускі патрыёт, навуковец, літаратар, пэдагог ды вёдамы грамадзкі дзеяч — праф. Антон Адамовіч.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

---

## Былы пасол ЗША ў Беларусі назначаны кіраўніком амэрыканскай дыпляматычнай місіі ў Грузіі

Былы пасол ЗША ў Беларусі Кэнэт Яловіц у хуткім часе пачне выконваць абавязкі Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла ЗША ў Грузіі. Аб гэтым стала вядома 16 чэрвеня пасьля слуханьняў у камісіі па міжнародных адносінах сэнату ЗША, якая зацьвердзіла кандыдатуру Яловіца на пасаду кіраўніка амэрыканскай дыпляматычнай місіі ў Тбілісі.

Назіральнікі адзначаюць, што адной з галоўных прычын, кіруючыся якімі прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан назначыў пасьлом у Грузію менавіта Кэнэта Яловіца, зьяўляецца імкненьне прымяніць багаты вопыт, набыты дыпляматам за некалькі гадоў працы ў Менску, пры вырашэньні ўнутранапалітычных канфліктаў у Грузіі.

**Вадзім Міліцын.**

 



## АДГУКНІЦЕСЯ, КАМУ ДАРАГАЯ НАША ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА!

# ДАВАЙЦЕ Ж СТВОРЫМ "БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР"!

СТВАРЫЦЬ залатую бібліятэку Беларусі, наш "Беларускі кнігазбор", інакш кажучы, падрыхтаваць і выдаць асобнымі тамамі, у адзіным прыгожым афармленні ўсё самае лепшае з нашай шматмоўнай літаратуры ад старажытнасці да апошняга часу -- такую сапраўды грандыёзную задачу паставіў перад сабой утвораны віднымі прадстаўнікамі Саюза пісьменнікаў Беларусі і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы нашай Акадэміі навук Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор", як назвала сябе новая грамадская арганізацыя, зарэгістраваная Міністэрствам юстыцыі Беларусі.

Асобнай брашурай выдадзены ўжо фондам падрабязны план-каталог гэтага унікальнага кнігазбору, у які ўвойдзе каля 200 тамоў. Выданне будзе складацца з дзвюх серый -- "Мастацкая літаратура" і "Гісторыка-літаратурныя помнікі". Сюды ўвойдуць не толькі лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў, але і пераклады польскіх, рускіх і іншых літаратараў, якія цікава расказалі пра нашу зямлю і гісторыю. У першай серыі чытач сустрэнецца з жывым словам Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Міколы Гусоўскага, Міхалона Літвіна, Мялеція Сматрыцкага, Афанасія Філіповіча, Сімяона Полацкага і многіх іншых пісьменнікаў старажытнасці. Асобнымі кнігамі выйдуць дзённікі і мемуары даўнейшых пісьменнікаў, творы паэтаў-лаціністаў, нататкі іншаземных падарожнікаў пра Беларусь, нататкі беларусаў пра замежныя краіны, драматургія XVII -- XVIII стагоддзяў.

Як вядома, доўгі час мовай пісьменства на Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай, была польская. У шматтомнік будуць уключаны творы польскамоўных пісьменнікаў Беларусі XVIII -- XIX стагоддзяў Францішка Багамольца, Адама Нарушэвіча, Францішка Князьніна, Юльяна Нямцэвіча, Марціна Матушэвіча, Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Евы Фялінскай, Эдварда Масальскага, Юзафа Крашэўскага, Уладзіслава Сыракомлі, Элізы Ажэшкі і інш.

Зоймуць сваё месца тут, вядома ж, беларускія пісьменнікі Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч, аўтары славутых паэм "Энеіда навыварат" і "Тарас на Парнасе", іншыя нашы "пачынальнікі".

З рускамоўных пісьменнікаў, якія так ці інакш былі звязаны з Беларуссю, мяркуецца выдаць асобнымі тамамі творы Паўла Шпілеўскага, Фадзея Булгарына, Юзафа Сянкоўскага, Станіслава Акрэйца, з яўрэйскіх -- Мендэле Мойхера-Сфорыма і іншых.

Асабліва шырока будзе прадстаўлена ў шматтомніку багатая і разнастайная літаратура нашага стагоддзя. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Лукаш Калюга, Паўлюк Трус, Францішак Аляхновіч, Міхась Зарэцкі, Барыс Мікуліч, Цішка Гартны, Андрэй Мрый, Ян Скрыган, Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў, Валянцін Таўлай, Мікола Сурначоў, Аляксей Пысін, Юрка Віцьбіч, Алесь Салавей, Ларыса Геніюш, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Вялюгін і інш., і інш., якія ў розны час адышлі ад нас. Акрамя літаратурнай спадчыны ў шматтомніку знойдуць месца і творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, тыя з іх, якія атрымалі ўжо шырокае грамадскае прызнанне.

Вельмі зацікавіць чытачоў і другая серыя "Беларускага кнігазбору" -- "Гісторыка-літаратурныя помнікі", кнігі, якія ў дакументальных матэрыялах раскрыюць перад намі тысячагадовую гісторыю Беларусі. У асобных тамах выйдуць беларускія летапісы, трактаты беларускіх філосафаў эпохі Асветніцтва, Статут Вялікага Княства Літоўскага, фальклорна-этнаграфічныя працы Саламона Рысінскага і Яна Ласіцкага, этнаграфічныя апісанні Беларусі XVIII -- першай паловы XIX стагоддзяў, працы даўнейшых гісторыкаў, этнографаў, фалькларыстаў, мовазнаўцаў. Чытачы атрымаюць такія, напрыклад, грунтоўныя, ніколі не перавыдаваныя ў нас кнігі, як "Гісторыя літоўскага народа" Тэадора Нарбута, "Вясковыя песні з-над Нёмана і Дзвіны" Яна Чачота, "Апісанне Барысаўскага павета" Яўстафа Тышкевіча, "Гістарычныя звесткі пра памятныя мясціны ў Беларусі..." Міхаіла Без-Карніловіча, "Гродзенская губерня" Паўла Баброўскага, "Беларускія старажытнасці" Аляксандра Семянтоўскага, "Беларусь -- Палессе" Оскара Кольберга, "Віцебская Беларусь" Мікалая Нікіфароўскага, "Беларускі зборнік" Еўдакіма Раманава, "Смаленскі этнаграфічны зборнік" Уладзіміра Дабравольскага, "Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў" Адама Багдановіча, "Беларусы" Яўхіма Карскага, "Віцебская старына" Аляксея Сапунова, "Славянскае жыллё ў паўночна-заходнім краі" Аляксея Харузіна, "Беларускі народ" Міхала Федароўскага, "Беларусы-палешукі" Аляксандра Сержпутоўскага, "Беларусы-сакуны" Ісака Сербава, "Народная культура славян" Казіміра Машынскага, "Рэчыцкае Палессе" Чэслава Пяткевіча, "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага, працы Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, Рамуальда Зянькевіча, Міхала Балінскага, Канстанціна Тышкевіча, Адама Кіркора, Івана Насовіча, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Уладзіміра Пічэты, Браніслава Тарашкевіча, Міколы Шчакаціхіна, Усевалада Ігнатоўскага, Мікалая Улашчыка, Станіслава Станкевіча, Рыгора Шырмы, Фёдара Янкоўскага і інш. Усё гэта літаратура, якая на працягу не аднаго стагоддзя адкрывала перад светам адзін з самых старажытных і самабытных славянскіх народаў -- беларусаў.

Выданне "Беларускага кнігазбору" разлічана не на год і не на два -- на дзесяцігоддзі. Распачынаць яго ажыццяўленне ў наш няпросты час, вядома ж, цяжкавата. На гэта патрэбны немалыя сродкі. Але мы, беларусы, думаецца, ужо дараслі да таго, каб годна паказаць сябе перад светам, давесці ўсім, што мы -- вялікі народ, які мае сваю шматвяковую культуру, свае традыцыі, свае не менш вартыя, чым у любога іншага народа, духоўныя набыткі -- арганічную частку сусветнай цывілізацыі.

Клічам усіх свядомых беларусаў не заставацца ўбаку ад гэтага сапраўды велічнага праекта. Асабліва на пачатку працы над яго ажыццяўленнем, у час станаўлення нашага выдавецтва (у нас ужо ёсць ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць) мы маем вялікую патрэбу ў матэрыяльнай дапамозе. Мы верым, што на наш кліч адгукнуцца беларусы ўсяго свету, што знойдуцца людзі, калектывы, якія захочуць памагчы нам стаць на ногі, каб вярнуць нашаму народу яго гістарычную памяць, ахвяруюць на гэты шматтомнік пасільныя сродкі. Выдадзеная на гэтыя сродкі кніга нашага кнігазбору, які стане сапраўдным дамашнім універсітэтам кожнага беларуса, будзе важкім укладам ахвярадаўцаў у нашу культуру, стане іх заўсёдным гонарам і славай. Імёны ўсіх фундатараў будуць выдрукаваны на самым відным месцы гэтага прэстыжнага выдання і такім чынам навечна ўпішуцца ў гісторыю нашай культуры. Выхад кожнай кнігі -- у цудоўным серыйным афармленні -- стане сапраўдным святам беларускага пісьменства. І самым ганаровым удзельнікам гэтага свята будзе той, хто дапамог выйсці кнізе ў свет, хто ўклаў у яе свае сродкі, стаўшы такім чынам яе фактычным гаспадаром. У Доме літаратара плануецца наладжваць прэм'еры кожнай кнігі "Беларускага кнігазбору" з удзелам фундатараў, якія абавязкова будуць запрошаны на гэтае свята. Прэм'еры кніг будуць паказвацца па тэлебачанні, пра кнігу будзе расказвацца ва ўсіх сродках масавай інфармацыі і выказвацца падзяка тым, хто фінансаваў выданне.

Усім, хто не адмовіцца падтрымаць гэтае маштабнае пачынанне, паведамляем свае рэквізіты.

Наш адрас: **Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5. Тэлефоны -- 63-99-46, 36-09-09. Разліковы рахунак 700911 у філіяле "МінскКомплексБанк", код 734.**

Толькі намаганнямі ўсіх беларусаў свету мы можам стварыць наш "Беларускі кнігазбор".

**Кастусь ЦВІРКА,**
**прэзідэнт МФ**
**"Беларускі кнігазбор".**

# Дзе моляцца сонцу разоры...

ПА СЬЛЯДАХ ПАЭТА АНАТОЛЯ БЯРОЗКІ

ЛіМ,



Гэтую маленькую кніжачку мне даслаў у 1990 годзе не аўтар, а яго знаёмы. Без даравальнага надпісу і без ніякіх тлумачэнняў. Маўляў, чытай і ўсё зразумееш. Я здзівіўся, але калі прачытаў, то сапраўды зразумеў, што ніякія тлумачэнні тут непатрэбны. Здзіўленне прайшло, засталася радасць ад сустрэчы з цудоўнай паэзіяй...

Той маленькай кніжачкай быў зборнік Анатоля Бярозкі "Адзінаццаць вершаў". У сапраўднасці не зборнік, а сшытак паэзіі. Вершы ў ім былі не надрукаваны, а перапісаны ад рукі прыгожым каліграфічным почыркам.

***...А я тут, у месце чужым і далёкім***
***пад хмарным восені небам***
***ў мітусні парожняга дня***
***ды знясіллі дарэмных узлётаў, —***
***адзін, бязмоўна стаю***
***а ўдыхаю павевы зімы***
***і гляджу на лісцё, што пад вокнамі гіне,***
***і веру, што ўсмешку маю***
***данясуць табе хмары.***

Беларускі тэкст суправаджаўся ангельскім перакладам і такое суседства ўспрымалася арганічна і натуральна, бо адлюстроўвала рэальную побытавую рэчаіснасць аўтара: амерыканскага грамадзяніна і беларуса па сваім менталітэце. Магія рукапісу і яго беларуска-ангельскі стэрыо-саунд, разам узятыя, рабілі надзвычайнае ўражанне.

Гэта быў не смутак і не туга. Гэта быў боль, жывы і несціханы. Гэта былі скупыя мужчынскія слёзы па страчаным шчасці, якое здавалася вечным.

Богам і лёсам аўтару "Адзінаццаці вершаў" было наканавана жыць далёка ад Бацькаўшчыны. Але ён не забыў, хто ён і адкуль. Памяць і Любоў дыктавалі яму свае радкі, і ён прамаўляў іх — як малітвы: да Бога, да неба, да людзей... У іх — яго шчырае прызнанне, горкая крыўда і пакорнае змірэнне...

***І кляну я горкі лёс ліхі,***
***і напружваю ў знямозе сілы...***
***Ці ж вядуць мае самотныя шляхі***
***да забытае, бяскрыжае магілы?***

Вандруючы па Амерыцы падчас працы над кнігай "Беларуская Амерыка", я напісаў ліст у Мантысэла, дзе жыў паэт, і праз тыдзень атрымаў адказ ад Мацвея Рэпкава-Смаршчка. "Дужа дзякую Вашэці за ліст. Вельмі рад пачуць суседа: вёска Пранчакі недалёка ад Падлесся, дзе жылі мае бацькі, дзе калісьці і я нарадзіўся..." Я быў таксама рады: прыемна спаткаць на чужыне блізкага земляка. Ад маіх Пранчакоў да Падлесся, якое цяпер называюць Вялікім, кіламетры чатыры. Пасля таго, як меліяратары вынішчылі алешнік за нашай вёскай, з гары на Рыгоркавай дарожцы добра відаць суседскія вёскі — Станчыкі, Трабавічы, Улазавічы, а за Улазавічамі ля самага гарызонта туліцца Вялікае Падлессе. Некалі туды хадзілі мае аднавяскоўцы ў сярэднюю школу і ў клуб на танцы. А ў царкву — не. У царкву хадзілі ў Малое Падлессе, што ля Дарава.

З Вялікага Падлесся выйшла ў свет шмат таленавітых людзей. Але найбольш вёска славілася сваімі песнямі. Нідзе ў наваколлі не спявалі так шмат і так прыгожа. Памятаю, мама казала: там людзі не такія, бо галасы іх ад Бога... І гэта праўда. Падлескі хор і цяпер існуе. Можа, не такі вядомы, як раней, але спявае па-ранейшаму цудоўна.

Ад падлескай зямлі напеўнасць і шчырасць паэзіі Анатоля Бярозкі, нязмушанасць і меладычнасць яго інтанацыі.

Хацелася пабачыцца з паэтам і пра ўсё распытаць. Але сустрэцца не выпадала. І я папрасіў яго пісьмова расказаць пра свой лёс, што ён лічыць патрэбным. "Праўду кажучы, — пісаў мне М. Рэпкаў-Смаршчок, — я нічога не лічу вельмі патрэбным. Але вось некалькі фактаў. Нарадзіўся 19 лютага 1915 года ў Падлессі. Вучыўся ў гімназіі ў Баранавічах. Паступіў у Віленскі універсітэт і пасля яго заканчэння атрымаў у снежні 1939 года дыплома лекара. Пасля таго, як Вільня была "вызвалена" Чырвонай Арміяй ды з лёгкай рукі Сталіна перададзена летувісам, у Вільні мне нельга былоаставацца і я выехаў у Падлессе. Савецкія ўлады прызначылі мяне лекарам на чыгунцы ў Івацэвічах, а пасля ў Пінску. У часе нямецкай акупацыі працаваў лекарам у шпіталі ў Баранавічах, нейкі час быў дырэктарам беларускае медычнае школы. Калі гітлераўцы зачынілі яе ў 1944 годзе, я выехаў у Пазнань, дзе меў сваякоў, але там мяне арыштавала гестапа. Гэта тады, як пісаў пра мяне Барыс Сачанка ў сваёй кнізе, я "выехаў у Германію". Відаць, ён не ведаў, што выехаў я пад канвоем у канцлагер Нордхаўзен. Там я страціў свайго бацьку — Васіля Рэпкава-Смаршчка, які апынуўся ў лагеры разам са мной. Маці засталася ў Падлессі і яе пазней закатавалі сталінскія апрычнікі ў канцлагеры ў Лясной. Адзіны мой брат Рыгор загінуў на вайне "за Родину, за Сталина", абараняючы Мурманск. З Падлесся на вайне загінула пяць маладых Смаршчкоў...

**— Як на чужыне вам удалося захаваць беларускую мову, застацца Беларусам?**

— Здзівіла мяне ваша пытанне. На яго даўно адказаў Францыск Скарына: "З таго языка Бог мяне на свет пусціў..." Я дзівуюся, як гэта людзі забыліся свае матчынае мовы, жывучы на Беларусі... І па-мойму, Беларусу не трэба ніякае дапамогі астацца Беларусам — ён будзе ім заўсёды, хоцькі-няхоцькі....

Ці сумую па Беларусі? Сумую. Прачытайце мой верш "Эпіграф"...

***Я з дарогаў далёкіх а горкіх аніколі***
***к табе не вярнуся,***
***дарагая матуля-зямля.***
***У чужым, няведамым полі***
***мае косьці збутлеюць.***
***Не аплача мяне Яраслаўна***
***у Падлессі, родным сяле.***
***Не схіляцца вербы, рабіны***
***над магілай забытаю.***
***Толькі вецер з-пад Нёмана, Лані***
***мо над ёю павее калісьці —***
***зашапоча у быллі на кургане.***

***І не вернецца конь мой буланы***
***да парогу роднае хаты,***
***каб хоць вестку к табе данясці пра мяне,***
***што загінуў***
***без сваіх, без цябе, мой аграблены***
***Краю Забраны.***

***Я зарокся цябе не забыць анідзе, аніколі***

***і вялікую ласку к табе я пранёс***
***скрозь гады і нягоды***
***і вазьму я з сабой у магілу забытую гэту.***

***Не кажы пра мяне, што загінуў дарма,***
***пустацветам —***
***пад мурогам чужым, у далёкай,***
***нянашай краіне***
***будзе пораху жменя,***
***што пайшла з беларускага роду,***
***з беларускай раллі. Тая пораху жменя,***
***той куточак чужое зямлі —***
***то навекі шматок Беларусі.***

***Сніцца будзеш ты мне,***
***мой краю палеткаў ільняных,***
***ў ранні светлага дня, ў васільковае***
***сіні узорах...***
***Хоць далёка магіла мая,***
***хоць і згінуў ня ў пору, —***
***я з табою навекі — там, дзе моляцца***
***сонцу разоры.***

***Пад чужым, глухім дзірваном***

 

*што берамем ляжа на грудзі,*
*сніцца будзе мне вецер той свежы*
*з-над Нёмана, Лані, —*
*і адна толькі скарга ў мяне —*
*што мяне там не будзе,*
*калі ў новую весну ты сустрэнеш*
*сваё світанне.*

Пільна сачу я падзеі на Бацькаўшчыне. Мяне яны радуюць й трывожаць. Радуе, што Беларусь цяпер незалежная. Сумна бачыць, што ёсць людзі, адурманеныя лозунгамі бальшавіцкага імперыялізму, што ізноў цягнуцца пад чужое ярмо...

**— Свае першыя вершы вы надрукавалі ў 30-х гадах. Прыгадайце, калі ласка, як і дзе гэта было?**

— Вершы пачаў я пісаць рана — як толькі навучыўся чытаць і пісаць. Некаторыя з іх былі надрукаваны ў віленскіх часопісах “Заранка”, “Шлях моладзі”, а пасля яшчэ ў “Калоссі”, дзе я быў сябрам рэдакцыйнае калегіі. Падпісваў я тыя вершы псеўданімам — Анатоль Бярозка. Максім Танк успамінаў пазней пра А. Бярозку: “Мне здаецца, з яго вырас бы цікавы і сур’ёзны паэт, калі б ён змог вызваліцца з-пад апекі сваіх духоўных айцоў...”

**— А як склаўся творчы шлях паэта Анатоля Бярозкі?**

— Паэт Анатоль Бярозка памёр у 1939 годзе. А сталася гэта так. Я быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза і разам з некалькімі маімі сябрамі выдаваў рукапісны часопіс “З-за плоту”. У той час паэты з БССР пісалі ліслівыя хваласпевы Сталіну. (“Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла і ласкай пакрыла палі, гарады...”). Вось жа, у апошнім нумары “З-за плоту” з’явілася “Ода да Сталіна”, падпісаная А. Бярозка”. Пачыналася яна: “О бацька ўсіх народаў, добры, справядлівы...”, а далей ішло: “Хай, бы сухі траснік, трашчаць ўсіх контраў робры на алтары тваім, о Добры...”. Ода гэтая трапіла ў рукі агентаў НКВД у часе “вызвалення” Вільні і адзін з іх пачаў дапытвацца, хто яе напісаў і дзе ён, гэты Бярозка. Пытаў ён і мяне. Я сказаў, што не ведаю, а мой добры сябра Усевалад Кароль прыдумаў, што Бярозка загінуў ад нямецкае бомбы, што ўпала на Антокалі. Можа, так і запісана ў актах НКВД, не ведаю. А неўзабаве Вільня адышла да Летувы, і ніхто больш пра Бярозку не пытаўся. І ён сапраўды памёр: пакінуў пісаць назаўсёды...

**— Дык што, паэта Анатоля Бярозкі больш не існуе?**

— Але, гэта праўда. Ёсць толькі я, Мацвей Рэпкаў-Смаршчок, стары ды нядужы ўжо чалавек.

**— Раскажыце, як узнікла задума выдаць “Адзінаццаць вершаў”?**

— У 1989 годзе я сабраў адзінаццаць вершаў са свае сціплае спадчыны, пераклаў іх на ангельскую мову і выдаў невялікаю кніжыцай для Беларускага Інстытута навукі і мастацтва. Пераклады мае перагледзеў і паправіў выкладчык ангельскай мовы Ралф Оўлсан з мясцовай школы. Яму я заўсёды буду ўдзячны.

Да ніякіх пісьменніцкіх суполак я не належу. З простае прычыны — іх тут няма. І не думаю, што належаў бы: я ж не пісьменнік. Ад таго часу, калі прыехаў у ЗША, я цалкам аддаўся медыцыне. Як мага стараўся быць добрым лекарам. Але ці быў — не ведаю...”

На вялікі жаль, на гэтым ліст абрываўся. Доктар Рэпкаў-Смаршчок палічыў непатрэбным распавядаць пра сваё жыццё ў Амерыцы. “Стараўся быць добрым лекарам...”. І ўсё. Пасаромеўся з-за сваёй празмернай сціпласці, прамаўчаў. Вырашыў, напэўна, што лепш за яго пра гэта раскажуць дакументы, шматлікія газетныя выразкі аб яго працы, копіі якіх ён даслаў мне разам з лістом. З іх я даведаўся, што ў Злучаныя Штаты доктар Рэпкаў-Смаршчок прыехаў у 1948 годзе. Пасняхова здаў экзамен і атрымаў дазвол на права займацца медыцынскай дзейнасцю. Пачынаючы з 1952 года працаваў доктарам у доме для састарэлых, быў лекарам клінікі пры універсітэце штата Мінесота. Лекарам ён быў выдатным. Гэта сведчаць шматлікія ўзнагароды, якімі адзначылі яго працу амерыканскія ўлады. Найвышэйшай адзнакай яго паслуг перад Амерыкай стала прысваенне 20 красавіка 1986 года аднаму з дамоў састарэлых у Мантысэла імя доктара Мацвея Смаршчка. Такога гонару пры жыцці ўдастойваюцца толькі вельмі заслужаныя людзі. Цяпер доктар Смаршчок на пенсіі, але яшчэ апякуецца невялікім лікам пацыентаў у доме для састарэлых, дзе ён займае становішча галоўнага доктара...

...Калісьці ён думаў, што з паэзіяй развітаўся назаўсёды. Але ён памыліўся, бо паэзія ніколі не пакідала яго. Гэтаксама, як ні на хвіліну не заціхаў усе гэтыя гады боль па страчанай Радзіме. Ён насіў яго ў сваім сэрцы, як незагойную рану, як патаемную радасць, як часцінку далёкай Беларусі...

**Леанід ПРАНЧАК**

# Каб заставацца беларусамі...

**У заходнеўкраінскім горадзе Львове сёння жыве каля шасці тысяч беларусаў. Гэта няшмат, калі агульнае насельніцтва дасягае амаль мільёна. Беларускае нацыянальна-культурнае таварыства імя Францішка Скарыны са дня яго ўтварэння ўзначальвае Барыс Мікалаевіч Цімошчанка. З ім гутарка нашага карэспандэнта.**

- Раскол у беларускім грамадстве падзяліў і нас, украінскіх беларусаў. Гэта адчуваецца, і даволі моцна. А пачалося ўсё на другім з'ездзе беларусаў свету. Выступаючы там, дэлегат з Харкава, нехта Самойленка, заявіў, што, маўляў, усе беларусы Украіны падтрымліваюць прэзідэнта Лукашэнку і ягоную палітыку.

Я таксама меў слова. Выказаўся, што далёка не ўсе беларусы, якія жывуць па-за межамі Бацькаўшчыны, падзяляюць думку дэлегата з Харкава. Напрыклад, нашы, львоўскія. Ім бліжэй ідэі Быкава, Шушкевіча, Гілевіча...

***- Барыс Мікалаевіч, а як украінскія ўлады ставяцца да дзейнасці беларускага таварыства?***

- На шчасце, Львоўшчына - край з вялікімі дэмакратычнымі традыцыямі. Таму тут разумеюць неабходнасць развіцця нацыянальных меншасцяў. Нам выдзялілі памяшканне. Спрыяюць выхаду газеты «Беларус Галіччыны». Калінікалі дапамагаюць фінансава. Аднак існуе і іншая пазіцыя. Найбольш выразна яе даносіць да грамадства Ірына Матушкіна, якая прадстаўляе ўкраінскі палітычны цэнтр. Гэтая грамадзянка сцвярджае, што тытульная нацыя, гэта значыць, украінцы, павінна асіміляваць меншасці, каб быць адзіным народам.

***- І на колькі вялікі поспех прыхільнікаў такой нацыянальнай палітыкі на Украіне?***

- Палітыканы накшталт Матушкінай вялікай бяды не робяць. Мы можам супрацьстаяць, бо ведаем, чаго яны хочуць і якія захады прадпрымаюць. Страшнае ў тым, што маладое пакаленне ўжо не адчувае сябе беларусамі. Дзеці нашы яшчэ памятаюць свае карані, узгадваюць пра радзіму бацькоў ці дзядоў. А вось унукі і праўнукі ўжо абыякавыя да нашых турбот: беларуская мова для іх чужая, як і культура, традыцыі, мастацтва. Беларусь не спрыяе нашаму нацыянальнаму самавызначэнню. Яна больш прыхільна ставіцца да савецкіх беларусаў за межамі. А нацыянальна свядомыя ёй не патрэбныя. Нават небяспечныя. Адсюль і палітыка ў адносінах да нас, львоўскіх беларусаў...

***- Вам даводзіцца кантактаваць з афіцыйнымі прадстаўнікамі Беларусі на Украіне?***

- І не раз. Вельмі прыкра, калі высокія чыны пасольства ў Кіеве ні слова, ні паўслова па-беларуску. Увесь час выпытваюць: а за каго вы? Маюць на ўвазе нашу палітычную арыентацыю. Гаворым у вочы праўду. Адразу да нас губляецца цікавасць. Супрацоўніцтва абмяжоўваецца выдачай прэс-рэлізаў з інфармацыяй пра Беларусь. Але звесткі гэтыя аднабаковыя, прэзідэнцкія. Аб'ектыўнасці не знойдзеш.

***- Шэсць тысяч львоўскіх беларусаў маюць свае погляды на жыццё. І далёка не ўсе актывісты таварыства...***

- Больш-менш актыўных людзей у нас налічваецца па-над 200 асобаў. Гэта сапраўды тыя, хто гатовы дапамагаць, прымаюць актыўны удзел у нашых мерапрыемствах. На жаль, людзі сталага веку. Яны і ветэранскі хор стварылі, і пра нядзельную беларускую школу парупіліся. Пакуль што не атрымалася. Думаю, паўплывала моўная сітуацыя на гістарычнай радзіме. Калі там беларускае не шануецца, то чаму яно павінна шанавацца тут? Вось спрошчаны адказ бацькоў нашых патэнцыяльных вучняў нядзельнай школы. Гэта праблема інтэрнацыянальная. Жыццё ў чужым краі накладвае свой адбітак. Бяда ў тым яшчэ, што моладзі не патрэбен ні Пушкін, ні Купала, ні Шаўчэнка. Такі свет. Беларусь як краіна павінна апекавацца над намі, пастаянна нагадваць, хто мы ёсць. І не толькі словам, але і справай. Тады, магчыма, водгук знойдзецца.

***- А як вы, Барыс Мікалаевіч, прыйшлі да ўсведамлення сябе беларусам?***

- Я нарадзіўся ў Мазыры. Бацькі былі выкладчыкамі. Закончыў Львоўскую ваенную вучэльню. 28 гадоў адслужыў на Паўночным флоце. Месцам жыхарства зноў абраў Львоў. Быў дырэктарам тэатра Савецкай Арміі, сябрам Саюзу тэатральных дзеячаў Украіны. У Львове, дарэчы, вучылася і Цётка. Неабыякава ставіўся да Беларусі і Іван Франко, які перапісваўся з Элізай Ажэшка, перакладаў яе творы.

... Якраз былі адліжныя 90-я гады. У грамадстве панавалі эйфарыя, уздым. Паўставалі незалежныя маладыя дзяржавы, у тым ліку і Беларусь. Карацей, так я і загарэўся беларускасцю. Сабраў напачатку чалавек з дзесятак шчырых беларусаў і пачалі працаваць.

***- Выданне сваёй газеты - таксама справа вашых рук?***

- Ёсць прыхільнікі роднага друкаванага слова. Разам шчыруем. Фінансава дапамагае заходняе аддзяленне Міжнароднага фонду «Відродження» і яго кіраўнік Аляксандр Софій. Цяпер трэба прывесці да ладу штаб-кватэру. Памяшканне маем, але толькі сцены...

Аўтараў у газеце небагата. Больш паведамляем пра гістарычныя падзеі, адлюстроўваем наша тутэйшае беларускае жыццё. Думаем змяніць назву. Наступныя нумары будуць пазначаны як «Галіцкая рунь». Будзем будзіць беларусаў, асабліва маладых. Вось каму трэба часцяком бываць на Бацькаўшчыне, дыхаць яе паветрам, каб заставацца прыхільнікам Радзімы. Ці ёсць такія арганізацыі на Беларусі, якія ўзялі б на сябе такі клопат? Не БПСМаўцам жа аддаваць гэтую неўзараную ніву.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

«ПАГОНЯ»

**РОЗДУМ ПРА ВЕЧНАЕ**

# ПАКУЛЬ НАС ПОМНЯЦЬ...

***Спакой... Шэрыя даўнія крыжы, гранітныя пліты з высечанымі на іх іменамі, вузкія сцяжынкі паміж курганкамі, ды яшчэ — чорныя груганы... Няўжо толькі гэта і засталося ад соцень людзей, якія некалі жылі, верылі, любілі і ненавідзелі?***

Я іду паміж магілак, углядаючыся ў фотаздымкі на помніках. Старыя і маладыя, вясёлыя і сумныя — кім былі гэтыя людзі? Чым яны жылі? У што верылі? Яны, напэўна, любілі яркае сонца, неабсяжнае неба, чыстае паветра, любілі прахалоду вады і шэпт лясоў. А зараз...

Могілкі маіх дзядоў знаходзяцца дзесьці ў сярэдзіне гэтай вялікай колькасці агароджаў. Бярэзіна схіляецца над шэрымі помнікамі-плітамі. Толькі зараз, спыніўшыся над гэтымі халоднымі плітамі, падумаў: як мала я ведаю пра сваіх продкаў. Нечага ў іх не запытаўся ў свой час, нешта не расказаў ім. І гэтага “нечага” так шмат, што ў душы — пустэча. Я адчуваю, як мне не хапае гэтага “нечага”.

Навошта я сюды прыйшоў? Нечакана ўспомніў радкі з рамана Ніла Гілевіча “Родныя дзеці”:

*Чаго мы ходзім на магілы?*
*Што нас вядзе пад сосен*
*шум?..*
*...Чаго ідзем? Паплакаць*
*горка?*
*Паспавядацца? Клятву*
*даць?*
*Ці, можа, з гэтакіх*
*пагоркаў*
*Сваё жыццё нам лепш*
*відаць?*

Адразу некалькі пытанняў, і ні на адно няма адказу. У душы тлее нейкі агеньчык, ён саграввае мяне незразумелым цяплом, якое запаўняе ўсю істоту, я адчуваю сябе часцінай вялікага і прыгожага свету, дзе мы жывём. Нарэшце я зразумеў: я прыйшоў сюды, каб аддаць даніну памяці гэтым людзям. Бо калі б не яны, мяне магло б і не быць. Яны падарылі мне жыццё, любоў да жыцця. Пакінуць на зямлі памяць аб сабе марыць кожны чалавек. Пакуль нас помняць — мы жывём...

...Кар-р, кар-р... Бесклапотныя груганы хмарамі навіслі над старымі дрэвамі. Чалавек, у адрозненне ад гэтых птушак, умее помніць і шанаваць мінулае...

Пакідаючы могілкі, адчуў, што ўва мне нешта змянілася, што больш сур'ёзна стаў глядзець на свет. Ці гэта ўсяго толькі “юначы максімалізм”, як любіць казаць адзін мой сябар? Не ведаю, дый ці даведаюся калі? Свет, як і чалавек, поўны загадак... Дзіўна толькі, што людзі задумваюцца над вечным тады, калі некага побач нестае...

***Аляксей МЕЛЬНІКАЎ.***

*“Чыр. Зьмена”*

*БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ!*
Дзе-б вы ні былі, змагайцеся
заўсёды адважна і бойка
за беларускую БЕЛАРУСЬ!

 



# Прызвычайванне

*Таму, хто змагаецца з пачварамі, неабходна асцерагацца, каб самому не ператварыцца ў пачвару. І калі ты доўга глядзіш у бездань, то бездань гэтаксама пачынае глядзець на цябе.*

**Ф. НІЦШЭ**

Нацыя павінна быць тым, чым яна можа быць, — і нацыя ёсць тым, чаго акурат яна хоча. Калі ў гэтым сцвярджэнні паміж абедзвюма ягонымі часткамі працяжнік з'яўляецца своеасаблівым знакам тоеснага ўвасаблення ў рэаліях, значыць, адносна той альбо іншай нацыі варта гаварыць пра паўнавартаснае існаванне. Беларускі досвед, на жаль, засмучае.

Відавочна, напрыканцы дваццатага стагоддзя сумнае адчуванне, што спадзеву няма, толькі ўзмацняецца. Наўрад ці ўдасца пазбавіцца трывалай прысутнасці катэгорыі адвечнасці ва ўсведамленні беларускай гістарычнай неабходнасці — Адраджэння. Прыкметы нейкай недарэчнай пазачасавасці падобнага стану нацыі, што ў песімістычных настроях часта пераходзіць у марнасць, выяўляюцца досыць выразна. Ці не ўся айчынная гісторыя ўяўляе сабою доўгія чаргаванні перыядаў заняпадаў і росквітаў Адраджэння. Узаемазалежная заўсёднасць вонкавага ўплыву, гвалту і нацыянальнага менталітэту не дазваляла беларусам дасягаць дагэтуль вышэйшых узроўняў функцыянавання тых атрыбутных складнікаў, якія вызначаюць сапраўдную класічную дзяржаву.

На вялікі жаль, тое, што дзейсніцца патрыятычнымі коламі зараз, не дужа адрозніваецца, напрыклад, ад намаганняў і здабыткаў адраджэнцаў пачатку стагоддзя. Нават тэксты разнастайных зваротаў, артыкулаў і вершаў тагачасных аўтараў можна друкаваць у сучасных незалежніцкіх выданнях — актуальнасць, патэтычнасць захаваліся. І наадварот. Дарэчы, гэта і яшчэ адна ілюстрацыя да таго, што спадчына беларускага нацыянальна-вызвольнага руху належыць выключна архівам і цяперашняй апазіцыі. Паходжанне і сутнасць уладаў вызначаюцца іншымі гістарычнымі традыцыямі. Тады атрымліваецца, што паразы Пазняка, Быкава ды яшчэ колькіх мільёнаў — таксама паразы Купалы, Багдановіча, Ластоўскага, Луцкевічаў. Балюча разумець, як плебісцыты і міліцэйскія дубінкі марнуюць справу Каліноўскага, Касцюшкі, Сапегі, які склаў калісьці сапраўды выбітны збор законаў. Увогуле паралеляў багата, і калі далейшыя сучасныя падзеі будуць разгортвацца паводле папярэдняга вопыту блізка стагоддзя таму, край застанецца забраным. Скон імперыі. Некаторае нацыянальнае абуджэнне і трохі супраціву ў рэчышчы агульнай прагі да волі на постімперскай прасторы. Няўдалыя памкненні ўсталяваць сапраўдную незалежнасць. Прачужынскі рэжым. Акупацыя. Вяртанне ў трансфармаваную імперыю. Цікава, якія варункі згаданай схемы мы перажываем зараз? Няўжо прыпазніліся парушыць яе паслядоўнасць? Няўжо, выбачайце, проста праспалі чарговым разам краіну?

Хутчэй за ўсё — так. Асабліва апошнімі гадамі калісьці меркаваная ў новым абліччы краіны дамінанта беларускасці сталася, хай і не ўсімі, адпрэчанай. Варта дэклараваць заняпад Адраджэння. Вядома, часовы, бо натуральнае ўсё адно праз пэўны тэрмін вымушанай прыхаванасці зноўку выявіцца. А да той пары застаецца есці бульбу на сатэлітнай тэрыторыі і вінавацііца. Мажліва, менавіта падсвядомая ўпэўненасць усёй нацыі ў абавязковым надыходзе светлага "калісьці" і спрычыняецца да няўдалага супрацьстаяння і прыкрага замірэння з чужацкай мадэллю рэчаіснасці.

Таму канцэпцыя Адраджэння патрабуе пэўнага ўдасканальвання — найперш пазбаўлення недабеларускасці. Яе сімптомы прысутнічаюць як на ўзроўні пачуцця нацыянальнай прыналежнасці, так і на ўзроўні праяў уласна чалавечай асобы. Тычыцца гэта ўсіх без выключэнняў, і кожны выдатна ведае і разумее, што ўяўляе сабою згаданы комплекс непаўнавартасці. На гэтак званы сіндром недабеларускасці шчодра хворыя і інтэлігенцыя, і інертны натоўп. Заінтэлектуалены светапогляд, канфармізм, падзел ва ўяўленнях і захадах суцэльнага працэсу на заваёвы агульнадэмакратычных і нацыянальных каштоўнасцяў і свабод, несупраціў абрусенню, абыякавасць, нарэшце — узаемаадрасаваныя абурэнні. Спараджаюцца пабочныя альбо страчаныя для Адраджэння асобы, псеўдазмагары. Усім крыўдна і сорамна, і таму вакол — балота.

Без рамантызму рэвалюцыі не робяцца. Аднак калі рамантызму вельмі багата, рэвалюцыі запавольваюцца. Здаецца, ідзі Адраджэння залішне аздобілі міфічнасцю і мройнасцю. Хаця колішняя веліч і папярэдняя ахвярнасць продкаў — далёка не гарантыя, што мы зладзім беларускую дзяржаву. За гэтым павінны быць нашы адмысловыя кошты, а пераважаюць правіны. Строгі гістарызм паступова ператварае Адраджэнне ў пазажыццёвае. Да таго ж гэта дазваляе тым, хто шчыруе ў рэчышчы антыбеларускіх памкненняў, гаварыць пра штучнасць і насаджэнне нацыянальных ідэй. Ініцыятывы працэдуры атрымання грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі падчас урачыстасцяў, прысвечаных 80-годдзю ўтварэння нашай прадзяржавы, таксама падаюцца дастаткова дзіўнымі. Акцыя, якая мае на мэце сцвердзіць духоўную сувязь і пераемнасць паміж цяперашнімі і тагачаснымі пакаленнямі патрыётаў, выглядае празмерна сімвалічнай. Наўрад ці варта надзвычай культываваць утопію (дарэчы, з грэчаскай мовы гэтае слова перакладаецца наступным чынам — няма такога месца). Навошта яшчэ раз дэманстраваць кволасць беларускіх патрыятычных сіл? Панацэю, калі яна ёсць, трэба шукаць ва ўласных сэрцах і навокал.

Выключныя высакароднасць і духоўнасць Адраджэння абумоўліваюць недастатковую маштабнасць і незавяршальнасць працэсу. Нацыя ж складаецца са звычайных і розных людзей. Многія ўважаюць абарону роднага за занятак элітарны і аднастайны, нецікавы. Варта поўніць беларускасцю ўсё — ад літаратуры да платоў. Увогуле здаровы побытавы нацыяналізм дасціпней даводзіць да здэнацыяналізаванага люду выгоды незалежнасці, чым утрапёныя адозвы. Узгадайце, як перажывалі людзі за сваю краіну на нядаўняй зімовай Алімпіядзе. Хтосьці, як тэлекаментатар У. Навіцкі, хацеў, пабачыўшы чырвона-зялёныя палотнішчы, ажно ўстаць і спяваць гімн. Іншыя асацыявалі Радзіму з колерамі формы, у якой гулялі беларускія хакеісты. Трэба меркаваць, што ў кожным разе гэтыя пачуцці — толькі пераходны стан да вышэйшага патрыятызму.

Ступень арыентацыі насельніцтва на нацыянальнае была б, напэўна, патэнцыйна інакшай, калі б улады ў краіне не вызнавалі шчыра прарасійскіх і недастаткова дэмакратычных прыярытэтаў. Значыць, трансфармацыя свядомасці грамадства мажлівая ў гэтым плане толькі ў выпадку пашанотнага стаўлення да беларускай культуры, гісторыі і мовы ў дзяржаўных афіцыйных інстытуцыях. Таму ажыццяўленне ідэй Адраджэння наўпрост залежыць ад палітычных вырашэнняў. Варыянт, што А. Лукашэнка паспрыяе нацыяльнай справе, падаецца фантастычным, хаця беларускі прэзідэнт здолеў бы праз сваю папулярнасць у народзе правесці кампанію па беларусізацыі надзвычай удала. Ёсць айчынная апазіцыя. Аднак, калі зважаць на крызіс, у якім яна апынулася, то застаецца толькі марыць, калі будзе напісаны беларускі бестселер, калі з'явяцца ўласныя нацыянал-камуністы, калі людзі на Новы год будуць глядзець пераважна мясцовае тэлебачанне, а нашыя пісьменнікі пакінуць мацюкацца па-руску. А менавіта тады, здаецца, краіна стане і незалежнай, і беларускай як след.

Такім чынам, толькі палітычныя перамены адновяць у бліжэйшы час маштабны і плённы адраджэнскі працэс. Ды даводзіцца, на жаль, паўтараць, што спадзеў гэта мізэрнее. Мы на ўласныя вочы бачылі, як зусім нядаўна марнаваліся шанцы, якія пазней назавуць гістарычна важнымі. За амаль восем гадоў суверэнітэту не з'явілася аніводнай значнай і заслужанай даты. А жалобы — колькі заўгодна.

У краіне ўжо доўгі час анічога вартага не адбываецца. Само жыццё ператварылася ў адзіны катаклізм. Чаму?

Проста — прызвычаіліся.

Пазамінулагоднім лістападам выразна выявіліся мажлівасці і абліччы ўсіх — ад прэзідэнта і палітычных апазіцыйных колаў да кожнага паасобнага беларуса. Чарговым разам распавядаць пра тое — значыць, вярэдзіць сэрцы. Прадвызначаліся лёсавыя тэндэнцыі краю. Сур'ёзнасць і канфліктнасць сітуацыі вымагалі натуральнага супрацьстаяння, якога чамусьці не здарылася. Тагачасныя падзеі дагэтуль згадваюцца надзвычай часта. Вядома, з рознымі інтэрпрэтацыямі таго, што адбывалася (сапраўднае народнае волевыяўленне альбо дзяржаўны пераварот).

І не дзіва. Улады такім чынам усталявалі трывалы палітычны лад, ды ўвогуле прастора кампетэнтнасці і тэрмін паўнамоцтваў уладных галінаў упарадкоўваюцца паводле абвешчанай на тым рэферэндуме Канстытуцыі. А вось для партый апазіцыйнага кшталту і іхніх прыхільнікаў восень 1996-га сталася вялікай паразай — скасаваннем шэрагу добрых перспектыў, сведчаннем палітычнай нямогласці і выключэннем з рэальнага палітычнага працэсу.

Згаданыя ваколплебісцытныя варункі былі апошняй значнай падзеяй, пасля якой краіна ўнутрана законсервавалася. І ў гэтым, здаецца, знаходзяць выгоды, вымушаныя альбо натуральныя, ці не ўсе.

Задаволенасць уладаў адсутнасцю ўсялякай пагрозы сваім пазіцыям дазваляе ім турбавацца пераважна інтарэсамі, што сягаюць па-за межы Беларусі. Так, між іншым, робяцца захады, каб адпрэчыць абвінавачванні, якія зыходзяць ад палітычных праціўнікаў. Напрыклад, А. Зімоўскі ў аўтарскай праграме агучыць надзвычай важкі аргумент таго, што Беларусь з'яўляецца амаль узорам дэмакратычнай краіны. Маўляў, калі ў нас здараюцца тэрарыстычныя акты, значыць, мы жывём у краіне дэмакратычнай, бо пры дыктатуры падобныя падзеі немагчымыя, бо ў гэтым выпадку дзяржава дзейсніць паўсюдны кантроль. Куды там праваабарончым арганізацыям, якія дарэмна складаюць дзесяткі старонак з фактамі парушэнняў правоў чалавека.

І хаця асаблівых прычын непакоіцца няма, наверсе, хай і ўяўна, актывізуюць жыццё ў палітычнай сферы. Пры гэтым вельмі ўражвае відовішчнасць бутафорый. Падаецца, што ўлады проста забаўляюцца, што ім як паветра неабходны чарговы, своеасаблівы палітычны наркотык. Наўрад ці сітуацыйнай, строга мэтанакіраванай і прадуманай была, напрыклад, акцыя па выкрыцці гэтак званага "бізнес-плана" дзяржаўнага перавароту, "падрыхтаванага апазіцыяй". Намеры дыскрэдытаваць яе набылі трохі адваротны эфект і сталіся ў пэўнай ступені асацыяванай рэкламай апазіцыйных колаў, аўтарытэт якіх можа зноўку аднавіцца. "Бізнес-план", легенда пра нейкую Беларускую Вызвольную Армію — і колькасць напаўрэальнага мае ўласцівасць з часам ператварацца ў якасць.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што пэўныя лакальныя задачы — палітычныя захады, якія робяцца ўладамі, усё ж вырашаюць. Іхняя галоўная функцыя, відаць, прамацаць, як пачуваецца грамадства, як яно рэагуе на тыя альбо іншыя падзеі, якія павінны былі б вымагаць натуральнага пратэсту. Спыненне выхаду "Свабоды" і ланцужкі арыштаў людзі ўспрымалі, на дзіва, абыякава. Значыць, з вялікай верагоднасцю можна прадбачыць, што ўлады і надалей захаваюць "стабільнасць" у краіне.

Што да апазіцыі, то крызіснасць яе існавання відавочная. Не апраўдваюць ужо і неспрыяльныя акалічнасці, дзейнасць у напаўпадпольных умовах. Сапраўды, складаней даказваць, што чагосьці няма, чым наадварот. А калі казаць метафарычна, апазіцыя намагаецца давесці народу, што ў А. Лукашэнкі няма ў кішэнях абяцаных смачных цукерак і быць не можа. Аднак насельніцтву даспадобы пакуль і дэманстрацыя абгортак. Не апраўдваюць ужо неспрыяльныя акалічнасці таму, што справа не толькі ў іх, а яшчэ ў тым, што апазіцыйныя колы альбо нічога не робяць, альбо робяць адныя і тыя ж памылкі.

Паступова ў абліччы айчыннай апазіцыі з'яўляюцца прыкметы, падобныя да вобраза ўладаў. Гэта вынік "абарачэння" ў адной аморфнай палітычнай сістэме. Прэзідэнт пастаянна паўтарае, што яго цалкам задавальняе беларуская апазіцыя — лепшай не пажадаеш. І з супрацьлеглага боку ўсё часцей чуецца меркаванне, што, маўляў, цяперашні рэжым вельмі паспрыяе акрыянню нацыянальнай самасвядомасці. Цікава, як будуць вызначаць, што ўжо досыць, што народ ужо ўцяміў перавагі нацыянальных каштоўнасцяў? Гісторыя ж сведчыць, што дагэтуль усе дыскрымінацыі той жа беларускай мовы толькі шкодзілі. Наўрад ці да месца тут мудрасць — знаходзіць і ў гаротным становішчы выгоды.

Ва ўладных атачэннях і ў апазіцыйных структурах займаюцца тэатралізаванай, несапраўднай палітыкай, ладзяць на адной сцэне відовішча, якое пакрысе адпуджвае разумных гледачоў. Хоць відовішча досыць вясёлае. Падобныя заняткі — натуральная прывілея ўладаў (на тое ж і ўлады), а апазіцыя ў акампанеменце выглядае недарэчна. Бытаванне ў альтэрнатыўным рэчаіснасці палітычным свеце спараджае выключна слоўны альбо ўяўны супраціў.

Памятаецца, як пасля правакацыйнага паведамлення на Беларускім тэлебачанні пра вядомую змову Каардынацыйная Рада палітычных партый выдала, на першы погляд, вельмі адэкватную баявую заяву. Яе падпісанты даводзілі, што калі пачнецца "новы этап больш жорсткіх рэпрэсій супраць апанентаў Лукашэнкі", яны пакідаюць "за сабой права пачаць кампанію грамадзянскага непадпарадкавання". Здзіўляе разуменне рознасці ў значнасці для справы дэмакратыі шараговых патрыётаў і лідэраў апазіцыі. Атрымліваецца, што калі судзяць і садзяць маладых хлопцаў, дастаткова напісаць гнеўную адозву, а калі што здарыцца благое з Карпенкам альбо, напрыклад, з Шарэцкім, дык пачнём будаваць барыкады? Ці не замнога пачуцця самакаштоўнасці ў спадароў, якія заклікалі людзей адным лістападам ганебна разысціся па дамах? Ды ўвогуле, якое непадпарадкаванне, калі на мітынгі, якія ўсё роўна ператвараюцца ў практыкаванні ў красамоўстве, звычайна збіраецца блізка трох пастаянных тысяч сезонных рэвалюцыянераў?

Тое, што дэмакратычныя сілы сапраўды апынуліся ў небяспечным крызісе, сёння не адмаўляе амаль ніхто. Нават непасрэдна палітычная апазіцыя, якая доўгі час наракала на нібыта дэструктыўную ролю некаторых незалежных выданняў, што першымі гучна абвясцілі аб прыкметах нямогласці апазіцыйных партый і распачалі працэс пошуку канцэптуальна-тэндэнцыйных вырашэнняў крызісу. Зараз гэтым займаюцца ўсе. Часта пераліваючы з пустога ў парожняе. Апраўдваюцца, робяць высновы, прыгожа разважаюць і нібыта пісьменна прагназуюць (увогуле шэраг дзеясловаў, што абазначаюць хаду і развіццё думак у гэтым рэчышчы, вялікі). У тэарэтычных распрацоўках беларускай апазіцыі роўных няма. Але папяровай палітыкі недастаткова. Палітычны досвед апошніх гадоў паказвае, што за гэтым хаваецца не толькі няздольнасць, а яшчэ і нежаданне дзейнічаць, спадзеў на выпадак, доўгачаканне іншай вырашальнай пары. Сапраўды, навошта вытыркацца, актыўнічаць, калі гэтак удала прызвычаіліся? Дабрабыт, палітычнае прызнанне ў свеце, маральная перавага над уладамі, некаторае задавальненне чалавечых амбіцый — што яшчэ трэба чалавеку, каб спакойна сустрэць старасць?

Галоўнымі аб'ектыўнымі прычынамі таго, што апазіцыя аніяк не можа рэалізаваць свой патэнцыял, падаюцца наступныя. Па-першае, гэта звыродлівая ідэя стварэння шырокай дзеяздольнай апазіцыі, неажыццяўляльная і непатрэбная. На вялікі жаль, падобныя захады з'яўляюцца элементарным жаданнем нікога не адпудзіць, каб не кінуліся падтрымліваць улады, выкарыстоўваць іх ва ўласных мэтах. Абарона Канстытуцыі 1994-га года — не незвычайны ўчынак і не нагода ўважаць тых жа камуністаў за суцэльна беларускую апазіцыю. Гэтаксама адасабляюць адно ад аднаго нацыянальныя інтарэсы і дэмакратычныя каштоўнасці інтэлектуальныя лібералы з АГП. Згадваецца Язэп Лёсік, які слушна даводзіў, што нацыянальнае вызваленне — гэта яшчэ і змаганне культур.

Па-другое, усе чакаюць 1999-га года, калі вызначыцца многа. Але і тут ёсць чаму здзіўляцца. Напрыклад, тая ж АГП збіраецца ўдзельнічаць у мяркуемых прэзідэнцкіх выбарах, і адначасова лідэры партыі сцвярджаюць, што дэмакратычных выбараў хутчэй за ўсё не будзе і А. Лукашэнка пераможа зноў... БНФ ініцыявала кампанію па зборы подпісаў за адстаўку прэзідэнта і ўсталяванне парламенцкай рэспублікі. Аднак чаго вартыя будуць сабраныя ў дастатковай колькасці (ёсць сумнеў і тут) подпісы? Хто правядзе адмысловую працэдуру імпічмента? Сход дэпутатаў Вярхоўнага Савета, прадстаўнікі якога маюць намер паўдзельнічаць у наступных, загадзя прайграных прэзідэнцкіх выбарах, альбо, можа, іншы парламент ахвотна гэтым зоймецца?..

Пакуль жа бездань паглядае на нас...

**Кірыла ПАЗНЯК**

 

## У ГОНАР 1000-ГОДЗЬДЗЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

Чалавецтва набліжаецца да канца II-тысячагодзьдзя. Усе народы і ўсе дзяржавы імкнуцца асэнсаваць свае дасягненьні і страты. Нямногім пакаленьням даравана лёсам жыць на мяжы тысячагодзьдзяў. Ад нас залежыць, з чым мы ўступаем у новае III-тысячагодзьдзе, які падмурак мы аставілі сваім нашчадкам.

Для Беларусаў другое тысячагодзьдзе было гераічным, драматычным, часам трагічным, але плённым.

На зямной кулі існуе звыш 10.000 народаў і толькі каля 170 з іх маюць сваю дзяржаўнасьць. Дзяржаўнасьць на Беларусі зарадзілася яшчэ на прыканцы 1-га тысячагодзьдзя. У летапісе "Аповесьці аб мінулых часах" пад 980 годам (дата ўмоўная) зьмешчана наступнае паведамленьне: «Рагвалод... меў воласьць сваю ў Полацку. А Тур — у Тураве, ад ягож і тураўцамі празвалі...» Такім чынам у канцы 1-га тысячагодзьдзя на тэрыторыі Беларусі існавала два — княствы-дзяржавы: Полацкае і Тураўскае.

У Полацку рана ўсталявалася свая княская дынастыя. У 1000-ым годзе тут княжыў Ізяслаў, сын полацкай княжны Рагнеды, унук незалежнага полацкага князя Рагвалода. Князі Вялікага княства Літоўскага паходзілі з полацкіх Рагвалодавічаў. Нават у Маскве, пры царскім двары Гэдымінавічаў прызнавалі за нашчадкаў полацкага князя Расьціслава Рагвалодавіча, а радавы герб Гэдымінавічаў "калюмны" або "Гэдымінавыя слупы" лічыліся ў Маскве як "печать полотская". У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь на прыканцы 18 стг. страціла сваю дзяржаўнасьць. 25 Сакавіка 1918 г. зьявілася спроба зноў аднавіць сваю дзяржаўнасьць у стварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі. 1-га студзеня 1919 г. была створана БССР, якая хоць дэ-юрэ і была дзяржавай, дэ-факта была калоніяй Расеі. Але неабходна прызнаць, што нават такое дзяржаўнае ўтварэньне адыграла вялікую ролю ў далейшым разьвіцьці і станаўленьні дзяржаўнасьці, што прывяло ў 1991 годзе да стварэньня незалежнай і сувэрэннай Рэспубліці Беларусь. Такім чынам галоўным дасягненьнем беларусаў за другое тысячагодзьдзе зьяўляецца будаўніцтва і захаваньне сваёй дзяржаўнасьці.

Улічваючы гэтае сусьветнае дасягненьне беларусаў, адзначэньне важнейшай эпахальнай вехі пераходу грамадства з II-тысячагодзьдзя ў III-е можа праходзіць толькі як ушанаваньне 1000-гадовага зараджэньня і разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці.

Такая ідэя адзначэньня важнейшай падзеі II-га тысячагодзьдзя ўзьнікла сярод многіх дзеячоў творчай інтэлігенцыі. Вось чаму пры Саюзе беларускіх пісьменьнікаў стварыўся ў першых чыслах чэрвеня аргкамітэт па правядзенью і адзначэньню 1000-годзьдзя беларускай дзяржаўнасьці. Узначаліў яго старшыня СБП Уладзімір Някляеў, а яго заступнікамі сталі пісьменьніца Вольга Іпатава, дырэктар Ін-та літаратуры імя Янкі Купалы НАНБ член-карэспандэнт Уладзімір Гніламёдаў, сакратаром — член Саюза беларускіх пісьменьнікаў і старшыня клюбу "Спадчына" Анатоль Белы. У аргкамітэт увайшлі таксама вядомыя на ўсю краіну мастакі, скульптары, архітэктары, вучоныя і гісторыкі.

Быў распрацаваны плян мерапрыемстваў. Улічваючы вопыт правядзеньня Расеяй у 1862 г. сьвяткаваньня 1000-годзьдзя Расеі "ў Ноўгарадзе", аргкамітэт прыйшоў да высновы, што такім кульмінацыйным момантам павінна стаць узьвядзеньне помніка «1000-годзьдзе Беларускай дзяржаўнасьці» ў Полацку. Акрамя таго аргкамітэт прапанаваў правесьці ўрачыстыя вечары грамадзкасьці ў Менску і Полацку, навуковыя канфэрэнцыі акадэміі ва ўсіх гарадах і набажэнствы ва ўсіх канфэсіях у гонар знакамітых падзеяў. Стварыць памятны мэдаль, выдаць плякаты, выпусьціць юбілейныя паштоўкі, маркі, канверты, выпусьціць адпаведныя кніжкі, кінафільм, прысьвечаныя гэтым падзеям.

Аргкамітэт лічыць, што такая эпахальная падзея нашага народу, як тысячагодзьдзе яго дзяржаўнасьці павінна ўвайсьці ў сьвядомасьць кожнага грамадзяніна Беларусі, абудзіць у ім гонар і годнасьць за яго Бацькаўшчыну і за яе тысячагадовую гісторыю.

Аргкамітэт заклікае ўсе беларускія арганізацыі замежжа аб'яднацца для сумеснай працы дзеля ўшанаваньня і прыўмнажэньня славы любай нам Бацькаўшчыны.

Анатоль Белы, пісьменьнік.





# Вінаватай зрабілі Варшаву

**Міністэрства замежных справаў надзіва аператыўна і ў даволі рэзкай форме адрэагавала на паведамленне, што ў Польшчы распрацоўваецца праект адкрыцця радыёстанцыі «Вольная Беларусь».**

Нагадаем: польскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што неўзабаве ў Беластоку пачне працаваць радыё «Вольная Беларусь», якое будзе вяшчаць на сярэдніх хвалях па восем гадзін у дзень; фінансуюць праект ЗША і Еўрасаюз (нашая газета пісала пра гэта ў мінулым нумары). Натуральна, што стварэнне радыё — справа не аднаго дня, аднак беларускі МЗС угледзеў у публікацыі *Gazety Wyborczej* «*попытку увязать принятие решения о начале работы этой радиостанции с так называемыми «репрессиями белорусского правительства в отношении западных дипломатов в Минске»*.

Эксперты беларускага МЗС не заўважылі выказванняў дарадцы прэм'ер-міністра Польшчы па пытаннях знешняй палітыкі Е.М.Навакоўскага, што польскі ўрад не мае да гэтага праекта ніякага дачынення і што працаваць на новым радыё будуць беларусы, а не палякі, затое пішуць: Е.М.Навакоўскі «*фактически заявил о позитивном отношении польского правительства к... использованию для вещания на соседнее государство передающих устройств «Польского Радио» в Белостоке. Таким образом, речь идет о публичной демонстрации намерения использовать искусственно нагнетаемую атмосферу вокруг «Дроздов» для оказания прямого информационно-пропагандистского давления на Республику Беларусь*». Нашае знешнепалітычнае ведамства лічыць, што публікацыі ў польскіх незалежных газетах і ўвогуле «*все эти действия*» ідуць уразрэз з нядаўняй заявай афіцыйнай Варшавы, якая не падтрымала візавыя санкцыі Еўрасаюза.

МЗС Беларусі заяўляе, што адкрыццё радыё «Вольная Беларусь» «*не будет содействовать развитию традиционно добрососедских белорусско-польских отношений*». Значыць, неаднаразовыя выпады Лукашэнкі і Шэймана на адрас Польшчы, выгнанне з Беларусі прафсаюзнай дэлегацыі «Салідарнасці» і іншыя падобныя дзеянні беларускіх уладаў — гэта ўсё праявы «традыцыйнага добрасуседства»? Што ж, працытуем яшчэ раз словы С.Шушкевіча, які лічыць, што радыё «Вольная Беларусь» не пагоршыць адносіны паміж Мінскам і Варшавай, бо «*горш ужо проста не можа быць*».

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Набліжаецца час Рэстытуцыі

## *Першая рэстытуцыйная грамата*

«НАВІНЫ»

*Чалавеку прыстойнаму нічога не можа быць даражэй за свабоду. А няволя так мусіць быць агідная, што не толькі маёмасцю, але і смерцю яе ад сябе адганяць павінен.*

**Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г.**

Набліжаецца да свайго бясслаўнага канца прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. 20 ліпеня 1999 года, роўна праз 5 гадоў пасля прынясення прысягі на Канстытуцыі 1994 года, Аляксандр Лукашэнка стане звычайным грамадзянінам Беларусі.

Народ, абраўшы Лукашэнку прэзідэнтам, заключыў з ім пагадненне і перадаў яму правы на кіраванне дзяржавай на 5 гадоў. Аднак ёсць вялікае мноства сведчанняў таго, што ён груба парушыў гэтае пагадненне.

Такім чынам, народ Беларусі мае права на рэстытуцыю — аднаўленне ранейшага становішча і вяртанне поўні сваіх правоў.

У Беларусі змяніліся палітычныя і эканамічныя рэаліі. Нарадзіліся новыя пласты эканамічна і духоўна свабодных людзей, сфармаваліся асноўныя грамадскія карпарацыі. Аб гэтым сведчыць адкрытае падпісанне Хартыі-97 самымі вядомымі і аўтарытэтнымі прадстаўнікамі беларускай грамадскасці.

Відавочна, што ніякія ўмовы правядзення дэмакратычных выбараў Лукашэнкам не будуць выкананыя. Таму, грунтуючыся на волі і рашучасці аднавіць дэмакратыю, законнасць і правы ў Беларусі, вызначаецца наступнае:

**1. Ніякіх выбараў, ані прэзідэнцкіх, ані парламенцкіх, а таксама рэферэндумаў пры неабмежаванай уладзе гэтага чалавека — Аляксандра Лукашэнкі, быць не можа. Толькі поўны байкот з боку дэмакратычных сілаў і ўсяго грамадства.**

**20 ліпеня 1999 года Аляксандр Лукашэнка юрыдычна перастане быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і стане звычайным грамадзянінам. Кожны супрацоўнік міліцыі атрымае магчымасць яго затрымаць ці збіць дубінкай па яго ж «законах», як затрымліваюць і збіваюць сёння сотні, тысячы мірных грамадзянаў пасля дэманстрацыяў за тое, што яны не рабы, а свабодныя грамадзяне.**

**2. Кожны, хто за грошы ці пасады пойдзе на перамовы з дыктатарам, той здрадзіць народу. Гэты чалавек назаўсёды зганьбіць сваё імя і ўжо будзе адказваць разам з Лукашэнкам.**

**3. Усякія вылучэнні адзінага кандыдата ў прэзідэнты — недарэчныя, гэтаксама як прапанова аб новым рэферэндуме. Кажуць, што гэта выйсце з тупіка, — але для каго?**

**4. Згодна з Канстытуцыяй, пытанне аб прызначэнні прэзідэнцкіх выбараў павінен разглядаць не Лукашэнка, а Вярхоўны Савет — за 5 месяцаў да сканчэння тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта, г.зн. да 20 лютага 1999 года. Кожны дэпутат, выбраны па Канстытуцыі 1994 года, які не пыме ўдзел у працы Вярхоўнага Савета, фактычна стане саўдзельнікам дзяржаўнага злачынства.**

**5. Вярхоўны Савет павінен да 20 лютага 1999 года прыняць рашэнне аб немагчымасці правядзення ні прэзідэнцкіх, ні парламенцкіх выбараў ва ўмовах дыктатуры і татальнага кантролю з боку Лукашэнкі за сродкамі масавай інфармацыі.**

**6. 20 ліпеня 1999 года Аляксандр Лукашэнка перастане быць Галоўнакамандуючым Узброеных сілаў. Выкананне з гэтага моманту яго загадаў пацягне крымінальную ці адміністратыўную адказнасць.**

**Народ! Набліжаецца час Рэстытуцыі!**

**Валянцін МАЦКЕВІЧ**

## По словах каардынатара Хартыі-97 Андрэя Саннікава, гэты дакумент падпісалі больш за 180 тысяч грамадзян Беларусі

По словах каардынатара грамадскай ініцыятывы Хартыя-97 Андрэя Саннікава, гэты дакумент падпісалі ўжо больш за 180 тысяч грамадзян Беларусі. Пра гэта ён паведаміў у інтэрв'ю, апублікаваным у апошнім нумары незалежнага штотыднёвіка "Белорусская газета". Колькасць прыхільнікаў ініцыятывы, якую назваў А.Саннікаў, узрастае, нягледзячы на актыўнае процідзеянне ўлад, "асабліва на вёсцы, дзе людзей запалохваюць, пагражаюць усялякімі праследаваннямі" і "можа быць, апошнім сродкам пераламіць сітуацыю ў краіне". Па яго словах, чарговае прадстаўніцтва Хартыі плануецца адкрыць у Вашынгтоне (нагадаем, што два ўжо дзейнічаюць у Брусэлі і Нью-Йорку). Функцыянаванне прадстаўніцтваў, адзначыў каардынатар ініцыятывы, дазволіла ўстанавіць вельмі важныя кантакты ў Еўрапейскім парламенце, у ААН; з'явілася магчымасць пастаўкі з Беларусі дакладнай інфармацыі ў буйнейшыя заходнія палітычныя цэнтры і атрымання такой інфармацыі з заходніх крыніц.

На думку Андрэя Саннікава, Беларусь у вачах заходніх палітыкаў дагэтуль не з'яўляецца "стратэгічна значнай дзяржавай"; яе лічаць, хутчэй, прыдаткам Расіі. Прадстаўнікі Хартыі імкнуцца пераламіць такі погляд, указваючы палітыкам на Захадзе на "залішнія паддакванні з рэжымам" і адначасова раскрываючы сапраўдны беларускі палітычны патэнцыял у Еўропе. Як заявіў А.Саннікаў, "мы уздзейнічаем і будзем уздзейнічаць на алгарытм адносін аўтарытэтных міжнародных арганізацый да цяперашняй сітуацыі ў Беларусі".

# “Незалежная Рэспубліка Мроя” прысвячае свае песні незалежнай Рэспубліцы Беларусь

***Кожны змагаецца за беларушчыну па-свойму. Адны ходзяць на мітынгі ці ладзяць пікеты, а іншыя, як, напрыклад, гурт N.R.M. (“Незалежная Рэспубліка Мроя”), выказваюць сваю пазіцыю творчасцю. Яны спяваюць рок на цудоўнай беларускай мове. Летась, дарэчы, хлопцы з N.R.M. былі абраны рок-каралямі-97. А ў самім гурце ва ўсіх сэнсах вылучаецца саліст Лявон Вольскі.***

**— Лявон, сёння вы ўжо даволі вядомыя. А як усё пачыналася?**

— Гурт N.R.M. узнік тры с паловай гады таму з папулярнага ў той час гурта “Мроя”. Склад застаўся тым самым, проста крыху змянілі музычны кірунак, таму што, як нам здавалася, тое, што ў апошні час іграла “Мроя”, было ўжо “мёртвай” музыкай.

Сама “Мроя” з’явілася на пачатку васьмідзесятых. Я, наш цяперашні бубнач Алег Дзямідовіч і Уладзімір Давыдоўскі, які зараз працуе журналістам, вырашылі стварыць такую музычную каманду. Спачатку ігралі розныя песні, а пасля прыходу ў гурт басіста Юрася Ляўкова пачалі складаць і выконваць свой рэпертуар.

Праз год існавання “Мроя” перайшла выключна на беларускую мову. У 84-м мы далі першы даволі вялікі канцэрт падчас свята выяўленчага мастацтва ў Траецкім прадмесці. Пасля чаго нас заўважылі “пэўныя органы”, выклікалі “куды трэба” і там “выхоўвалі”: маўляў, што гэта ў вас за антысавецкія тэксты, як так можна “очернять действительность” і гэтак далей.

1988-1989 гады лічу перыядам найбольшага ўздыму “Мроі”. Мы займалі першыя месцы ў хіт-парадзе “Беларускай маладзёжнай”, атрымлівалі шмат лістоў. Пасля пачаўся працяглы перыяд творчых пошукаў. Мы праглі чагосьці новага, перайгралі шмат рознай музыкі... Спачатку хацелася выказацца ў складаных формах, пасля — у зусім простых накшталт рок-н-рольных. А ў рэшце рэшт перайшлі на хард-рок, з якім і скончылася існаванне “Мроі”. Такім чынам, са зменай назвы гурта змянілася і наша музыка.

**— І ўсё ж такі не магу не спытаць, чаму вы спяваеце менавіта на беларускай мове?**

— А навошта нам іншая, калі ёсць свая родная, на якой можна выказаць любыя думкі, любыя пачуцці.

**— Як нараджаюцца вашы песні?**

— У асноўным тэксты пішам я ды наш бубнач. Але ў прынцыпе ў нас не пераважае калектыўная творчасць.

**— Раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе.**

— Люблю займацца выяўленчым мастацтвам (маю адпаведную адукацыю) — пэўныя відамі ілюстрацый, а таксама графікай і жывапісам, калі ёсць час. Пішу прозу, некаторыя мае творы друкаваліся ў “Нашай ніве”, люблю паэзію. Што датычыць сучаснай музыкі, то мне падабаюцца абсалютна розныя кірункі, стылі. З класікаў люблю Баха, Бетховена, з сучасных сімфаністаў — Глебава.

**— Што для вас галоўнае ў творчасці?**

— Асабіста для мяне галоўнае ў рок-музыцы — гэта натуральнасць ды шчырасць.

**— І традыцыйнае пытанне: вашы бліжэйшыя планы?**

— Па-першае, паездзіць з выступамі па рэгіёнах. Бо, на жаль, як толькі заплануем канцэрт па-за Мінскам, амаль заўсёды нешта не атрымліваецца. А нам хочацца, безумоўна, выступаць і ў іншых гарадах, бо N.R.M., прабачце за нясціпласць, гэта гурт, які належыць не адному толькі Мінску. Таксама наважыліся выпусціць новы альбом.

**Дарэчы, усім фанатам ды проста прыхільнікам гэтага гурта паведамляю, што ў сталіцы існуе фан-клуб N.R.M., размешчаны ў студэнцкім клубе політэхнічнай акадэміі. Кожную суботу а 17-й гадзіне там збіраюцца не толькі фаны гурта, але і проста моладзь, аб’яднаная ідэямі беларускага рок-н-ролу.**

**Асабліва параіла б зазірнуць туды тым, хто стэрэатыпна лічыць, што рок — гэта музыка выключна заходняя. N.R.M. пераканае вас, што з’явіўся і жыве сапраўдны беларускі рок.**

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## АБВЕСТКА — ПРОСЬБА

Менская Тэатральна-фальклёрная група **«Бераг белых буслоў»** просіць вашае фінансавае дапамогі, каб прадаўжаць беларускія народныя танцавальныя і сьпеўныя традыцыі новым пакаленьнем. Усе фінансавыя расходы на нацыянальную вопратку для нова паступаючых дзяцей у тэатр прыходзіцца плаціць бацькам, а ў іх не хапае грошай нават, каб пракарміць сям’ю. Так што, адгукнецеся дарагія суродзічы, і дапамажэце гэтым дзеткам, каб беларускія народныя традыцыі не замерлі назаўсёды.

Наперад шчыра дзякуем!

Перасылайце чэкі на адрас:

Belarusian-American Center
c/o George Naumczyk
P.O. Box # 26
South River, N.J. 08882
USA.

Паважаны Сп. Прускі!

Перасылаю ахвяру ад БГЦ у Саўт Рывэры на вашу вельмі парадачную і цікавую газэту — “Беларускі Дайджэст”... Жадаем вам і на далей вялікіх посьпехаў у плённай працы на карысьць беларускага народу, і таксама добрага здароўя вам і вашай сям’і.

З вялікай пашанай,
Ж. Н.

*Дзякуем за ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты. Вашую просьбу выконваем. Хацелася-б мець больш чытачоў і добразычліўцаў з Вашае ваколіцы. Жадаем усяго найлепшага.*

### У 1997 годзе

Колькасць насельніцтва Беларусі на канец года склала 10 млн. 203 тыс. чалавек. Нарадзілася за год 90 229 дзяцей, памерла 137 428 чалавек (з іх ад няшчасных выпадкаў — 15 766). На канец года на Беларусі зарэгістравана (усяго за 10 гадоў) 1 787 ВІЧ-інфіцыраваных, з іх у г. Светлагорск — 1 068 чалавек. Выяўлена 17 хворых з дыягназам СНІД. Памерла ад гэтай хваробы 14 чалавек. Уступілі ў шлюб 71 154 чалавекі, а скасавалі 47 426. З народжаных у мінулым годзе кожнае шостае дзіця — пазашлюбнае.

Зарэгістраваны на Беларусі 2 123 палітычныя і грамадскія аб’яднанні, якія маюць рэспубліканскі, міжнародны і рэгіянальны статусы.

Налічваецца 2 256 рэлігійных абшчын, якія дзейнічаюць у рамках закона. Сярод іх – 1 031 праваслаўны прыход.

Працуюць 56 ВНУ, з іх 17 недзяржаўных. Іх заканчваюць штогод больш за 30 тыс. кваліфікаваных спецыялістаў...

## Што за дурасьць, што за бздуры?..

Вось што пісаў менскі часопіс “Беларусь” у 1968 годзе:

У канцы лютага і пачатку сакавіка 1968 года ў Будапешце адбылася Кансультацыйная сустрэча камуністычных і рабочых партый свету. Часопіс не прайшоў міма гэтай падзеі. Расказваючы пра яе, “Беларусь” піша: “Камуністычны і рабочы рух за апошнія гады ўступіў у новы этап свайго развіцця, вырас і пашырыўся... Імперыялізм, вядома, не можа спакойна глядзець на такую пагражальную для сябе хаду падзей. Яго трывожыць прадчуванне немінучай пагібелі, якая набліжаецца з кожным днём, і ён прыходзіць у шаленства, стараецца адтэрмінаваць час сваёй смерці, арганізуе контратакі і агрэсіўныя акты...”

А вось што піша нейкі таварыш Глушакоў у менскім прэзыдэнцкім часопісе “Беларуская думка”, № 2, за 1998 год:

Возьмем для прыкладу тую ж Амерыку — узор цывілізацыі, дзе даўно (у параўнанні з астатнім светам) пануе электронна-кампутарны рай...

Ці, можа, пекла? Давайце паразважаем.

ДАВЕДКА. Сёння ў ЗША налічваецца 70 працэнтаў гомасексуалістаў, 55 мільёнаў наркаманаў. Карціну заняпаду і дэградацыі дапаўняе і такая лічба: з розных прычынаў тут не працуе палова працаздольнага насельніцтва. Але асабліва ўражвае інтэлектуальны заняпад: палова дарослага насельніцтва ЗША не здольна напісаць ліст да сваіх знаёмых і блізкіх. Сорак чатыры мільёны дарослых амерыканцаў не могуць падлічыць, колькі грошай яны зрасходавалі ў супермаркеце, параўнаць розніцу кошту прадуктаў, атрымаць інфармацыю па тэксце, які змешчаны на адваротным баку прасцейшага бланка.

За акіянам нарэшце зразумелі, што такі маштабны заняпад нацыі неўзабаве прывядзе да выраджэння грамадства, — неабходна ўзнаўляць генетычнае здароўе нацыі. Амерыканцы, стварыўшы штучны рай, як гаворыцца, на ўласнай скуры выпрабавалі сюрпрызы матухны-прыроды, а іменна: моладзь, якая да шлюбу прайшла, кажучы папросту, «агонь, ваду і медныя трубы», плодзіць у далейшым наркаманаў, разбэшчаных інфантылаў, дэбілаў, інвалідаў, псіхічных хворых... Сёння ў Штатах, паводле звестак вядомага ў свеце доктара Кінсі, у псіхіятрычнай дапамозе маюць патрэбу звыш 37 мільёнаў амерыканцаў. Больш як палова ўсіх бальнічных ложкаў у ЗША заняты псіхічнахворымі. Астатнія бегаюць па вуліцах.

- Што з ім?
- На белага каня сеў...

Малюнак Аляксандра СКРЫПКО.

СЕКСАПАТОЛАГ

ДОКТАР, ПЕВЕНЬ НЕШТА Ў КУРАТНІКУ АСЛАБЕЎ...